

Народны строй ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Працаваў канём з дзяцінства ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3290) Год LXIV | Беласток, 2 чэрвеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# «Пралог» — V Дні культуры і славянскай пісьменнасці ў Бельску-Падляшскім

**«Пралог» — V Дні культуры і славянскай пісьменнасці, арганізаваныя ў галоўным Музеем малой айчыны ў Студзіводах з 23 па 26 мая ў Бельску-Падляшскім, традыцыйна прымеркаваны былі да святкавання ў гонар настаўнікаў славян, святых Кірылы і Мяфодзія. Названне гэтага гістарычна-культурнага мерапрыемства выводзіцца ад найстарэйшай захаванай славянскай кнігі з жыціямі святых «Пралог», выдадзенай у 1496 годзе ў Бельску-Падляшскім. На сёлетняе свята кнігі і славянскай пісьменнасці яго галоўны арганізатар Дарафей Фіёнік з супрацоўнікамі падрыхтавалі багатую праграму, якая была рэалізавана ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах, жыллёвым квартале Студзіводы, Пакроўскай царкве ў Бельску-Падляшскім, Бельскім доме культуры і Гмінным асяродку культуры ў Орлі.**



■ Анатоль Гладышчук з Брэста запрэзентаваў трэці том кніжкі «Берасцейскі замак. Res Publica», якую падарыў Дарафею Фіёніку



Пятыя Дні культуры і славянскай пісьменнасці пачаліся міжнароднай гістарычна-культурнай навуковай канферэнцыяй «Падляшша, Палессе і Гродзеншчына», наладжанай 23 мая ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах, якая стала адным з галоўных момантаў «Пралогу» і закончылася на другі дзень. На канферэнцыю прыбылі гісторыкі, аматары даўніны і супрацоўнікі архіваў з Рэспублікі Беларусь, Беластока, Варшавы, Бялграда і Масквы. Удзельнікам канферэнцыі цікава было даведацца аб гісторыі і культуры Падляшша, Палесся і Гродзеншчыны.

— Бельск быў цэнтрам пісьменнасці на Падляшшы. Мы ў гэтым годзе прымеркавалі «Пралог» да 450-годдзя заключэння Люблінскай уніі і праваслаўнага выдання ў Заблудаве «Евангелля ўчыцельнага», першай друкаванай кнігі на Падляшшы. Гэта быў вызначальны момант у гісторыі і культуры ваяводства, нашай і суседніх краін. «Евангелле ўчыцельнае», надрукаванае ў 1569 годзе, адрасаванае было ўсім хрысціянам і ў Падляшскім ваяводстве павінна ўрачыста святкавацца 450-годдзе яго выдання ў Заблудаве, — сказаў старшыня Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік.

Перад удзельнікамі канферэнцыі выступілі дакладчыкі. Пшэмыслаў Сянко з Беластока гаварыў пра заходнюю мяжу Падляшша перад Люблінскай уніяй. Аляксандр Доўнар з Мінска расказваў аб Кнізе запісаў Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага нумар 13 як крыніцы да гісторыі Падляшскага ваяводства ў палове XVI стагоддзя, звяртаючы асаблівую ўвагу на жыхароў канкрэтных мясцовасцей і царквы.

— На падставе Кнігі запісаў № 13 Метрыкі ВКЛ, якая стваралася на аснове рашэнняў наконт уласнасці зямельных участкаў, таксама судовых пастаноў, можна даведацца пра жыццё на памежнай тэрыторыі. Успамінаюцца там Такары, Драгічын, Мельнік, ці Мілейчычы, — заявіў Аляксандр Доўнар.

Марцін Міраноўіч з Беластока распавядаў пра хрысціянскія вартасці ў брацкіх школах у XVII і XVIII стагоддзях, а Уршуля Паўлючук з Беластока падрыхтавала даклад на тэму «Дняўнік Свята-Троіцкага манастыра ў Вільні як крыніца да знаёмства з Вільняй XVIII стагоддзя». Асабліва цікавым было выступленне Анатоля Гладышчука з Брэста, які запрэзентаваў трэці том сваёй кніжкі «Берасцейскі замак. Res Publica». У Студзіводскім музеі на першы дзень «Пралогу» адбылося таксама адкрыццё яго фотавыставы «Там, дзе Пульва і Лясная ўплываюць у Буг», на якой можна ўбачыць перш за ўсё плён шматлікіх паездак аўтара па Берасцейшчыне. На экспазіцыі можна паглядзець здымкі краявіду рэгіёна і яго жыхароў.

— Я запрэзентаваў трэці том кніжкі «Берасцейскі замак. Res Publica», у якім пішу, між іншым, што Бярэсце было здадзена шведам у 1657 годзе без змагання. У 1660 годзе разбурылі Бярэсце маскоўскія войскі, а не шведы, як раней меркавалася. У першым томе кніжкі я напісаў пра Кіеўскую Русь, а ў другім томе я апісаў Літву Гедыміна, — заявіў Анатоль Гладышчук.

У Студзіводскім музеі ў час навуковай канферэнцыі прэзентаваліся фотавыставы пра яўрэяў у Бельску-Падляшскім і пра Музей малой айчыны ў Студзіводах на старонках «Нівы». Тамаш Яшчалт з Варшавы расказаў пра шляхту і баяраў з наваколля Бельска-Падляшскага ў перыяд Люблінскай уніі, паведамляючы, што з іх боку не было большага супраціву даць прысягу на вернасць каралю Польшчы. Ірына Шыбанова з Масквы распавяла пра маёнтак у Тэлятычах у XVI і XVII стагоддзях. Наталля Гаркові з Мінска распавяла пра правіны і кары уніяцкага духавенства Бельскага і суседніх дэканатаў у другой палове XVIII і пачатку XIX стагоддзяў, звяртаючы ўвагу, што візітарам складана было дабіцца, каб святары выконвалі іх указанні. Юры Снапкоўскі з Мінска распавёў аб падляшскай шляхце, якая апынулася ў Мінскай губерні ў XIX стагоддзі.

Пасля абедзеннага перапынку адбылася дыскусія наконт гармоніі сакральнай архітэктуры і прыроды, якую вяла Анна Радзюкевіч з Беластока. У гэтай часці канферэнцыі выступілі дакладчыкі з Гродна. Святлана Сілава падрыхтавала даклад пра беларуска-польскае пагранічча ў кантэксце праваслаўнага духавенства і пэнітэнцыярных устаноў на зломе XIX і XX стагоддзяў. Віталь Карнялюк прачытаў даклад «Таямніцы белавежскай гісторыі злому XIX і XX стагоддзяў», а яго супрацоўнікі Марта Каленік і Раман Грыгарчук распавялі пра гістарычна-культурны рэгіён Бельск — Крынкі — Свіслач — Бераставіца і яго патэнцыял у кантэксце трансгранічнага турызму.

— Я даследаваў бежанства жыхароў Белавежскай пушчы і наваколля ў час Першай сусветнай вайны ў глыб Расіі. Многа жыхароў з тэрыторыі Белавежскай пушчы і яе наваколля падалося ў бежанства, але частка насельніцтва па розных прычынах засталася на месцы ў час вайны. Бежанцы былі раскінуты па вялікай Расіі. Найчасцей працавалі ў сельскай гаспадарцы, хаця надзелаў зямлі ім не давалі. Многія спачатку ўбачылі ў Расіі намнога багацейшае жыццё, чым мелі дома, паколькі частка бежанцаў пасялялася на ўраджайных землях. Аднак паўсюдна бежанцы марылі аб вяртанні дамоў, да сваёй нават дрэннай якасці зямелькі, каб спачыць на сваіх вясковых магілках. Далёка ад дому сталі ўсведамляць, што яны іншыя, чым расіяне і калі сталі арганізавана вяртацца дамоў, усведамлялі сваю адметнасць і так будавалася іх беларуская свядомасць. Моцна памяняліся погляды бежанцаў з наваколля Белавежскай пушчы на акружаючы свет. Прывезлі яны з сабой новыя веды і вопыт па розных галінах, становячыся іншымі людзьмі, — заявіў дакладчык з Гродна Віталь Карнялюк.

Не змог даехаць на канферэнцыю Іван Чарота з Мінска, які меў гаварыць, між іншым, пра 450-годдзе заблудаўскага «Евангелля ўчыцельнага». Першы дзень «Пралогу» закончыўся ўсяночнай багаслужбай у гонар святых Кірылы і Мяфодзія ў Пакроўскай царкве.

24 мая ў царкве Пакровы Божай Маці ў Бельску-Падляшскім служылася святочная літургія, у час якой спяваў Візантыйскі хор імя Майсея Пятровіча з Бялграда. У бельскай царкве спяваў ён пад кірункам Міколы Попмайлава ды музыколага і спецыяліста па візантыйскай музыцы Марціна Абійскага з Беластока, ураджэнца Гайнаўкі, які здаўна супрацоўнічае з Музеем малой айчыны ў Студзіводах. На агароджы Пакроўскай царквы прэзентавалася фотавыстава «Рытмы — сакрум і прырода» Анны Радзюкевіч пра гармонію сакральнай архітэктуры і прыроды. У гэты ж дзень працягнулася навуковая канферэнцыя ў Студзіводах. Мікола Попміхайлаў з Бялграда выступіў з дакладам «Спадчына літургічнай музыкі на Балканах». Марцін Абійскі запрэзентаваў даклад «Візантыйскія багаслужбы азматычнага рыту з літургічнай і музыкалагічнай перспектывы», а Ёган Вольфганг Нікляўс са «Schola Węgajty» выступіў з дакладам «Служба аб трох пабожных младзенцах у Вавілонскай печы» — уводзінамі да падзеі, якая на наступны дзень адбылася ў Пакроўскай царкве. На другі дзень мерапрыемства ў Бельскім доме культуры, а пасля ў Гмінным асяродку культуры ў Орлі адбыліся канцэрты калектыву «Ваколіца» з Зеленаграда (Расія), у якога рэпертуары ёсць традыцыйныя песні, танцы і інструментальная музыка Смаленшчыны.

25 мая, у суботні дзень, «Пралог» праходзіў у вёсцы Катлы. Адбыліся там свята вёскі і чарговая прамоцыя кніжкі «Катлы на Літоўскім гасцінцы». Асвяцілі там адноўлены крыж, вадзілі карагоды і спявалі песні. Прайшоў канцэрт у выкананні калектываў з Польшчы, Беларусі, Расіі і Сербіі. У суботні вечар у Пакроўскай царкве ў Бельску сабраныя пабачылі «Службу аб трох пабожных младзенцах у Вавілонскай печы», якая праходзіла з удзелам калектыву «Schola Węgajty», сербскага Візантыйскага хору імя Майсея Пятровіча з Бялграда і музыколага Марціна Абійскага.

— Студзіводы належаць да Пакроўскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, дзе другое парафіяльнае святкаванне адбываецца ў гонар святых Кірылы і Мяфодзія. Мы арганізуем «Пралог» разам з прыходам Пакровы Божай Маці ў Бельску і нам важна, што навуковая і мастацкая часткі мерапрыемства адбываюцца побач багаслужбаў у прыхадской царкве і духоўных падзей, — заявіў Дарафей Фіёнік.

Трэцім арганізатарам мерапрыемства з'яўляецца Аб'яднанне «Schola Węgajty».

У апошні нядзельны дзень «Пралогу» яго ўдзельнікі святкавалі ў Студзіводах, дзе прайшоў карагод і адбыліся канцэрт і танцы з удзелам калектыву «Магдаліна» з Кобрына (Беларусь) і іншых выканаўцаў.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Зусім іншая эпоха

Ніхто, ці амаль ніхто, не ведае свайго фіналу. Жыццё чалавека хуткаплыннае і кароткае, колькі б ён не прабыў на гэтым свеце. Кожны на гэтым, надзвычай кароткім адрэзку гісторыі, шукае свайго сэнсу і якасці, а таксама параўноўвае тое, што было раней, з цяперашнім. Гэта па маладосці дзеянні апярэджваюць думкі. А калі прыходзіць пара сталення, а пасля і непазбежнага старэння, чалавек пачынае больш уважваць і аналізаваць, параўноўваць і асэнсоўваць. Праўда, разумныя людзі кажуць, што такіх людзей не так і шмат. Як у тым старым жарце: „семдзесят адсоткаў зусім не ўмеюць думаць, яшчэ дваццаць пяць думаюць, што яны думаюць, а насамрэч толькі пяць працэнтаў здольныя на нейкае мысленне".

Нашаму пакаленню, тым, каму ўжо пяцьдзясят і за пяцьдзясят, цяжка паспець за маладымі. За ўсімі гэтымі сучаснымі камунікатарамі, асабліваcцямі сацыяльных сетак і новымі піяр-тэхналогіямі. Ну, але калі вучыцца новым тэхнічным цікавінкам і навінкам ніколі не позна, то мяняць прынцыпы сапраўды пазнавата. А за апошнія трыццаць гадоў свет змяніўся да непазнавальнасці не толькі тэхнічна. Еўраатлантычная цывілізацыя перажыла і зазнала такія трансфармацыі, што цяжка паверыць, як можа за такі зусім непрацяглы адрэзак часу змяніцца так шмат у ментальнасці, мысленні і паставах людзей.

Праўдападобна, што заходняя дэмакратыя перажыла свой росквіт, пік і далей стала набываць пераважна абсурдны характар. Было прыдумана шмат штучных і фальшывых тэрмінаў, ідэалогія стала падмяняць навуковыя даследаванні. Левыя рухі канчаткова эвалюцыянавалі ў светагляд сацыялізму (гэта якраз у тых краінах і асяродках, дзе людзі і блізка не зведалі такога „развітога сацыялізму", які перажылі людзі, прыкладам у Савецкім Саюзе, Камбоджы, Кітаі і іншых падобных дзяржавах). Адбылася падмена амаль усіх паняткаў. Самае галоўнае, што „левай" ідэалогіі мала суіснаваць з іншай. „Левая" ідэалогія, якую кшталтуюць амаль усе цяперашнія навучальныя акадэмічныя асяродкі, культурніцкія цэнтры, разбурае і хоча знішчыць у еўраатлантычнай цывілізацыі ўсе праявы традыцыяналізму — рэлігійнага, нацыянальнага, сямейнага, сексуальнага. Прытым з гэтай магутнай плынню немагчыма дыскутаваць — на кожнага, хто запярэчыць ці пасмее выступіць супраць такой ідэалогіі, адразу навешваецца шэраг „незмывальных" ярлыкоў і характарыстык, якія па сутнасці не азначаюць нічога, але маюць выразна негатыўную афарбоўку. Утварылася цэлая сістэма забарон і табу. Узнікла такая ўніверсальна прымяняльная рэч як „паліткарэктнасць". І дыскусія ў грамадстве значна звузілася. Цяпер непаліткарэктным могуць назваць што заўгодна і на гэтым адразу канец той дыскусіі.

У адказ узнікаюць не менш радыкальныя „правыя" рухі, якія чамусьці ўсё часцей называюць нацыяналістычнымі. І тут адбываецца падмена паняткаў, таму што „нацыяналіст" раней заўсёды лічыўся сінонімам слова „патрыёт". „Нацыяналіст" — гэта той, хто любіць сваё, але паважае іншае. Тыя ж „правыя" рухі, якія набіраюць папулярнасць у Еўропе зараз, хутчэй трэба называць шавіністычнымі і варожа настроенымі не толькі да імігрантаў, але і да карэнных іншых народаў, якія насяляюць тую ці іншую краіну. Новых сапраўдных правых, новых гавелаў-ландсбергісаў у Еўропе больш няма. Невыпадкова, амаль усе так званыя цяперашнія „правыя" захапляюцца пуцінізмам і сябруюць з крамлёўскім рэжымам. Перыядычна вылазяць „рогі, хвасты і капыты" гэтай супрацы, як у нядаўняй гісторыі фактычна з кіраўніцтвам Аўстрыі.

А там, дзе такія псеўдаправыя культывуюць традыцыяналізм у сваім разуменні праз клерыкалізм ці дыскрымінацыю нацыянальных меншасцей, таксама нічога добрага не выходзіць.

Беларусы і некаторыя іншыя постсавецкія народы яшчэ захоўваюць нейкі традыцыяналізм. Але, відаць, толькі таму, што не зведалі грамадзянскай свабоды, лепшага, што можа быць у дэмакратыі, не прайшлі сваёй дарогі. Тэма гэта доўгая і шырокая. Беларусам таксама трэба ўсведамляць, што ніздзе за мяжой, апрача асобных адзінкавых палітыкаў, праваабаронцаў, навукоўцаў, журналістаў, у нас няма саюзнікаў і не будзе істотнай падтрымкі ў змаганні за незалежнасць і дэмакратыю.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Як доўга?

Палітычны глобус пярэсціць штораз больш злавесных запаленчых агменяў. Абазначым іх чырванню і накладзем на гэтыя гарачыя плямы мясцовыя пратуберанцы надвор'я. Яны накладуцца амаль цалкам адно на адно! Гэта мо глупства, журналісцкае злоўжыванне?! Ну, так. Скажу нават больш, гэта снегавік у сярэдзіне гарачага лета. Але будзьце пільнымі: зіма, палітычная ці кліматычная можа нас у любы час заспець! Быццам бы сусветная палітыка не мае ніякага дачынення да глабальнага клімату, але ж мае. Факт, калі планета Зямля мае ліхаманку, ліхаманку мае палітычны лад свету. У абодвух выпадках гэта з'яўляецца сімптомам хваробы, падрывання цэласнага балансу гэтых сістэм. А менавіта, гэта з'яўляецца вынікам дэрэгулявання ўнутраных механізмаў самаабнаўлення. У выпадку Натурыста гэта крайне паржавелы «цывілізацыйнымі» выкідамі $CO_2$ так званы натуральны крэмнієва-вугляродны цыкл. Гэта больш менш паглынанне Зямлёй лішку парніковага вуглякіслага газу з атмасферы і з астуджэннем планеты праз паступовае вызваленне яго ў атмасферу, што зноў выклікае яе прагрэў. Інтэнсіўнае спальванне вугалю і іншых карысных выкапняў цалкам разрэгулявала гэты механізм. У сваю чаргу, рэгулятарам сучасных сацыяльных сістэм, упісаных у ДНК палітычнай сістэмы кожнай краіны з'яўляецца Канстытуцыя. Але ж, Канстытуцыя няроўная Канстытуцыі. Калі яна заснаваная на дэмакратычных стандартах, адносна абараняе правы кожнага грамадзяніна, і ў выніку ўсіх грамадзян. Калі філасофскія або ідэалагічныя нормы, дык сілай свайго няспраўнага ўзвышае некаторыя групы у параўнанні з іншымі. Гэта, у сваю чаргу, прыводзіць да дэрэгуляцыі грамадскага парадку. Канстытуцыя Еўрапейскага Саюза аснаваная на дэмакратычных асновах і ўніверсальныя грамадзянскія правы здаюцца быць узорам для ўсіх асацыіраваных у ёй краін. Тым не менш празмернае выдзяленне сацыяльных фобій і страхаў, звязаных таксама з расстроем клімату Зямлі і папулісцка выкарыстоўваемымі рознымі палітычнымі сіламі ў многіх краінах, дэрэгулюе яго сістэму. Выбары ў Еўрапарламент паказваюць, наколькі.

Падабенства глабальнага трызнення палітычнага і кліматычнага пацяплення з'яўляецца дзіўным, і ў абодвух выпадках аднолькава трывожным. У цэлым, аднак, «трывога» больш датычыць існавання чалавечага роду, чым Прырода. Прырода можа абысціся без чалавека, як гэта зрабіла без дыназаўраў і вавельскіх цмокаў. А чалавек без Прыроды? Не мусіць, аднак, дайсці да палітычнага кіпення і ў той жа час знішчэння чалавецтва. Не мусіць, але што з таго, што, калі патэнцыйна можа. Чалавечы арсенал сродкаў знішчэння працягвае павялічвацца. Ці мілітарны, ці ў выглядзе $CO_2$. І адказвае за гэта выключна чалавек. Разбурэнне Прыроды, самога зямнога шара, гэта нешта зусім іншае. Яе можа разбурыць выпадковы катаклізм, напрыклад, выпадковы астэроід. Для чалавека такім астэроідам будзе сам чалавек. І ён разаб'е сябе, верагодна, выпадкова, таму што гэта было б абсурдна меркаваць, што ён калі-небудзь зробіць гэта свядома і наўмысна. Выпадковасць зноў упадабняе да сябе будучыню чалавечага роду і самой Зямлі. Толькі тое, што падабенства не ўяўляецца сваяцтвам. Чалавек падобны да чалавека па відавым сваяцтве, але не да грыба, хоць абодва віды бяруць свой род ад супольнай галіны філагенетычнага дрэва жыцця і складваюцца з аднолькавых элементаў: вугляроду, вадароду, кіслароду, азоту, серы і фосфару. Яны нават маюць падобнае ДНК. Ну, але з грыбом не нап'ешся гарэлкі, не паразмаўляеш за бяседным сталом ... Ужо існуе большае падабенства паміж сусветным палітычным кліматам і глабальным пацяпленнем. Хоць і гэта спрэчнае. Аднак, не можа быць цалкам выключана, што гэтыя дзве незалежныя пазіцыі не звязвае прынамсі адно агульнае звяно — сувязь, ці ўжо зашморгнутае ў прычынна-выніковай Канстытуцыі Прыроды, часткай якой з'яўляецца Чалавек, а нядаўна, калі чалавечы род пагарджаў яе фундаментальным запісам, аддаючыся ненаеднаму малоху бяздумнай цывілізацыі. Цывілізацыя сама па сабе нядрэнная рэч — многае залежыць ад таго, як яна маніпулюецца. І наколькі разумна выкарыстоўваць яе ў якасці інструмента прагрэсу. Аднак, калі прагрэсам з'яўляецца фейсбукавы гейт, жорсткія відэагульні, інтэрнэтны тролінг, электронная турма вулічных камер, дык замест падсвечанай лямпай LED электроннай кнігі лепш мне чытаць пры газоўцы кнігі надрукаваныя на паперы.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Еўрапарламенцкія скокі

Ну і стартануў палітычны выбарчы цягнік у Польшчы. Стартануў з самай вялікай планкі — з майскіх выбараў у Еўрапарламент. На восені маем чарговыя выбары ў польскі парламент, а затым у наступным годзе прэзідэнцкае спаборніцтва. Так што перад намі палітычная ліхаманка, якая для саміх палітыкаў будзе перыядам узаемазнішчэння. Але і нас, звычайных грамадзян-выбаршчыкаў не пакіне яна збоку. То перад намі будзе адбывацца танец заваражвання нас абяцаннямі, або проста трагікамедыя з удзелам байцоў палітычнай гульні.

Па сямейных справах перыяд з серады па выбарчую нядзелю ўключна правёў я ў сваёй пушчанскай вёсцы, таму, на шчасце, не быў я абцяжараны інфармацыйнай вайной, якая кіпела ў медыях, а проста жыў рэальна ў выбарчай цішыні. З перспектывы пушчы і прыроды брусельскія выбары здаваліся малым эпізодам на фоне важных спраў пушчанскіх абарыгенаў. Цішыня і пустэча ў вёсцы, нават каб і хацеў, не дазваляла з нікім і заікнуцца пра палітыку. Але, едучы на вёску, я заўважыў, што рэкламная, плакатная кампанія тут мізэрная, бо проста патэнцыйных і рэальных выбаршчыкаў тут пражывае жменька. Толькі расцяжкі з паслом Кшыштафам Юргелем красаваліся ў гмінных сядзібах. «Ага, але зацяты і ўпарты, каб патрапіць у Еўрапарламент», — мільганула мне думка, глядзеўшы на яго, як спаглядаў на выбаршчыкаў з плота ў Дубічах-Царкоўных. Затым з палітыкай у поўным разгары сутыкнуўся я ізноў у нядзелю пасля поўдня, калі вярнуўся ў Беласток, каб прагаласаваць і чакаць вынікаў выбараў або, трапней сказаўшы, культурна-ідэалагічнага плебісцыту, бо ўся, здаецца мне, выбарчая кампанія ў сферы ідэй праходзіла паміж выбарам хрысціянскіх, сямейных каштоўнасцей ды левай культуралагічнай і бытавой рэвалюцыяй. З аднаго боку Права і справядлівасць, з другога — Еўрапейская кааліцыя і Вясна. Дзве апошнія групоўкі значную ўвагу ў сваёй выбарчай акцыі прысвяцілі менавіта гендэрным праблемам. ПіС сваю актыўнасць будаваў на сацыяльна-эканамічных рэформах, уведзеных урадамі Бэаты Шыдла і Матэвуша Маравецкага. З гэтай сутычкі, як стала вядомым у панядзелак раніцай, пераможцам стала Права і справядлівасць, а былая прэм'ер-міністр Бэата Шыдла стала абсалютным пераможцам у маштабе Польшчы, набіраючы звыш паўмільёна галасоў. Вынік былой прэм'ер ёсць большы ад колькасці галасоў, якія здабылі некаторыя групоўкі ў маштабе краіны. Грамадзяне сваёй высокай выбарчай яўкай (на выбары пайшло 45% выбаршчыкаў) і аддадзенымі галасамі такім чынам выказалі таксама давер палітыцы ўрада. Дарэчы, высокая выбарчая яўка была ва ўсіх краінах Еўрасаюза і ў сярэднім перавысіла 50 працэнтаў.

У выніку рашэння выбаршчыкаў расклад галасоў у Польшчы на выбарах у Еўрапарламент ад 26 мая выглядае наступным чынам: Права і справядлівасць 45,38%, Еўрапейская кааліцыя — 38,47%, Вясна — 6,06%, Канфедэрацыя — 4,55%, Кукіз-15 — 3,69%, Левіца Разам — 1,24%. Паводле пераліку галасоў ПіС атрымае 27 мандатаў, КЕ — 22, Вясна 3 мандаты. Такім чынам ПіС атрымаў першую, гістарычную перамогу ў еўрапарламенцкіх выбарах. Пры нагодзе ізноў вельмі відавочным стала, што зараз большасць передвыбарчых апытанняў з'яўляецца толькі палітычным заказам, а не рэальнымі адказамі рэспандэнтаў. Таксама вынікі апытанняў у сам дзень выбараў, пададзеных пасля закрыцця выбарчых участкаў, адрозніваюцца ад тых пададзеных раніцай Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Найбольш прайгранай з'яўляецца тут крайне правая Канфедэрацыя, якая вечарам віншавала сябе з уваходам у Еўрапарламент, а над раніцай мусіла прыняць да ведама свой пройгрыш. Такія, а не іншыя вынікі выбараў прадвяшчаюць нам сапраўды гарачую палітычную восень. Цікава як татальная апазіцыя падыдзе да такога рашэння выбаршчыкаў і ці ў змозе праіснаваць Еўрапейская кааліцыя як адзіны камітэт. Здаецца, што не, бо цяжка сабе ўявіць, каб Польская сялянская партыя не пайшла самастойна на выбары. Але гэта восень, а зараз Еўрапейскі парламент чакаюць новыя выклікі.

Яўген ВАПА

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Народны строй — дакумент тоеснасці

**Адным з найбольш важных элементаў этнічнай культуры беларусаў з'яўляецца традыцыйная вопратка, якой далікатная эстэтыка адлюстроўвае рысы менталітэту людзей — сціпласць, дабрыню, зычлівасць, працавітасць, паэтычнае ўспрыманне свету, субтыльнае разуменне прыгажосці. Народны строй быў своеасаблівым пашпартам чалавека — менавіта гэты і сёння даказвае, як самастойнай і адметнай была беларуская культура на фоне суседніх краін.**

„Беларуская народная вопратка" — пад такім загалоўкам 23 траўня адкрылася выстаўка ў Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы. Экспанаты паходзяць з калекцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Выстаўка з'яўляецца адным з многіх мерапрыемстваў, якія адбываюцца ў выніку шматгадовага супрацоўнічаюць абодвух музеяў.

Музей народнай архітэктуры і побыту валодае шматлікімі калекцыямі. Асобнае месца займае збор элементаў народнага адзення, які фарміраваўся цягам 1977-2018 гадоў і дэманструе народныя строі ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

— Беларускі народны строй склаўся на беларускіх землях цягам стагоддзяў і адрознівае беларусаў ад суседніх народаў, — адзначыў у час выстаўкі навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Аляксей Андрупаў. — Назва калекцыі кажа сама за сабе, не цяжка ўявіць, што ў яе ўваходзіць. Гэта разнастайная бялізна, дзіцячае, жаночае і мужчынскае адзенне, якое ў сваю чаргу падзяляецца на сялянскія і гарадскія строі. У большасці сваёй калекцыя складаецца з такіх вырабаў як кашулі, сукенкі, спадніцы, нагавіцы, паясы, вопратка, царкоўнае аблачэнне. Калекцыя „Адзенне" дае ўяўленне аб разнастайнасці і прыгажосці беларускага народнага строю, майстэрстве і тонкім гусце беларускіх майстрых, якія стваралі сапраўдныя творы мастацтва.

У музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы можна было аглядаць вопратку другой паловы XIX стагоддзя, сабраную з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама розныя элементы адзення, якія дазваляюць паказаць разнастайнасць народнай вопраткі беларусаў. Прысутныя маглі пабачыць, чым адрознівалася вопратка ў залежнасці ад рэгіёнаў, уплыву гарадскога асяроддзя а таксама суседніх народаў.

— У нас прадстаўлены строі з усіх рэгіёнаў Беларусі. Агулам 17 жаночых строяў і 10 мужчынскіх, а таксама некаторыя элементы і пераходныя варыянты, — сказаў Аляксей Андрупаў. — Агулам даследчыкамі вылучаецца больш за 30 рэгіянальных строяў, якія адрозніваюцца паміж сабой не толькі характарам арнаментацыі, але і наборам колераў спадніцы, наяўнасцю ці адсутнасцю гарсэту.

Калекцыя адзення ў зборах Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту налічвае каля 1600 адзінак і няспынна папаўняецца.

— Выязджаем на экспедыцыі, слухаем людзей як было раней, а таксама з літаратуры даведваемся пра ўсе дэталі вопраткі, — сказаў дырэктар Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Эдуард Багдановіч. — У нашым музеі працуе 107 чалавек і кожны з іх гэта і навуковы супрацоўнік, і артыст. Кожны можа правесці цікавую экскурсію, станчыць ці заспяваць. Калі мы бярэм да нас на працу ў музей, я як дырэктар стаўлю першае пытанне: Вы беларускую культуру любіце?

Напэўна любяць яе ў Цеханоўцы. Музей сельскай гаспадаркі з 2013 года супрацоўнічае з Беларускім дзяржаўным музеем народнай архітэктуры і побыту. Гэта






■ Навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Андрупаў Аляксей (злева).



■ Дырэктар Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы Дарота Лапяк і дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Эдуард Багдановіч.



дазваляе, між іншым, на ўзаемнае прадстаўленне калекцыі ў рамках выстаў у Польшчы і Беларусі.

— Стараемся прынамсі два разы ў год абмяняцца нашым досведам, — адзначыла дырэктар Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы Дарота Лапяк. — Гэта розныя формы супрацы, між іншым вось такія выстаўкі. Спадзяюся, што з такім самым зацікаўленнем сустракаюцца нашы выстаўкі ў Беларусі. Мы ўжо прэзентавалі нашу алеаграфію, а таксама двухасноўную тканіну. Наша супраца гэта таксама абмен вопытам. Нашы супрацоўнікі прымаюць удзел у канферэнцыях, якія ладзіць Дзяржаўны музей. І ўжо традыцыяй стала, што супрацоўнікі музея з Беларусі прыязджаюць да нас на Падляшскае свята хлеба.

Супрацоўніцтву падляшскіх культурных устаноў з беларускім бокам спрыяе Маршалкоўская ўправа.

— Людзі пазнаюць іншую культуру і ўжо думаюць інакш — больш шырэй, адкрыта, з'яўляюцца новыя ідэі. Гэта супрацоўніцтва важнае ў галіне эканомікі, культуры ды іншых сферах, — сказаў у час выстаўкі дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап. — Супрацоўніцтва з беларускім бокам гэта адзін з самых важных напрамкаў дзейнасці дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны. Зараз ёсць эфекты — усе нашы ўстановы супрацоўнічаюць з Беларуссю.

Дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту гэта не толькі 107 працаўнікоў, але і 151 гектар зямлі! Гэта адзіны такога тыпу музей у Беларусі. Тут захоўваюцца помнікі традыцыйнага народнага дойлідства пад адкрытым небам у натуральным прыродным асяроддзі. Хаця музей не мае такіх грошай, каб выкарыстаць усю тэрыторыю, дырэкцыя заўважае павышэнне цікавасці беларусаў да народнай спадчыны.

— Апошнія гады, на здзіўленне, заўважаю, што цікавасць да нашага музея, да традыцыі прачнулася ў моладзі, — падкрэсліў Эдуард Багдановіч. — На нашы святы, на розныя мерапрыемствы: Масленіцу, Дзяды, Юр'еў дзень прыходзіць моладзь. У музей на такія мерапрыемствы кожны, хто апрануўся ў народны касцюм, уваходзіць бясплатна. Да нас тады прыходзяць тысячы маладых людзей у народнай вопратцы! Калі яшчэ пяць гадоў таму музей наведвала 50 тысяч чалавек за год, зараз гэта больш за дзвесце тысяч. Больш чым палова гэта моладзь! Вось, што цікавае! Гэта цешыць, што ў маладых людзей прачнуўся інтарэс да нашай спадчыны. Яны не толькі прыходзяць, але ведаюць традыцыі, песні, абрады...і гэта радуе.

Выстаўка „Беларуская народная вопратка" у Цеханоўцы таксама адкрывалася пры поўнай зале людзей. Адкрыццё суправаджаў канцэрт сясцёр Дарыі і Калісы Пятроўскіх з Беластока. Дзяўчынкі, стыпендыяткі маршалка Падляшскага ваяводства, праспявалі некалькі народных беларускіх песень, пры якіх дапамагала ім маці — Анна Пятроўская, і некалькі сучасных, якія заспявалі самастойна.

Выстаўку можна глядзець да 6 жніўня ў галоўнай сядзібе Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы па вуліцы Палацавай, 5.

## На рэабілітацыйным аддзяленні — 2019 г.

Сёлета рэабілітацыю ў Гайнаўскім шпіталі пачаў я 15 красавіка. У палаце прыёму рэгістрацыя прайшла хутка і спраўна. Зарэгістравалі адно ў камп'ютары накіраванне, затым казалі паставіць подпіс і падацца на рэабілітацыйнае аддзяленне, якое змяшчаецца на другім паверсе. Ліфтам падымаўся ў кампаніі дачкі Аліны і ўнука Кшыся. Прывітала нас знаёмая медсястра Валя. Сардэчнае было прывітанне, сяброўскае. Памясціліў адзінаццатай палаце. Маімі кампаньёнамі аказаліся тры мужыкі — двух гайнаўскіх і бяльшчанін. У час знаёмства выявілася, што паводле ўзросту я самы старэйшы. Малодшым за мяне на тры гады быў Уладэк з Бельска, затым на пяць гадоў Рышард з Гайнаўкі, а самым малодшым аказаўся Мірэк. Іх трое і я адзін. Быццам з польскага тэлесерыяла «Тры паляка, грузін і сабака». Самым гаваркім аказаўся бяльшчанін Уладэк. Яму семдзесят пяць гадоў. Чаромху добра ведае. Працаваў там пры пабудове пагранпераходу ў Полаўцах. Вясёлым кампаньёнам аказаўся Уладэк. Зранку да вечара спяваў. Дзе б не падаўся, чуваць было яго песні: польскія, расейскія, украінскія ды беларускія. А ведае іх шмат. Быццам бы музычная энцыклапедыя.

— Адкуль у цябе музычнае захапленне? — пытаю прыяцеля.

У адказ пачуў ягоную гісторыю.

— У 2010 годзе пацярпеў я ад апаплексічнага ўдару. Хвароба пакінула цяжкія паслядоўнасці. Заняло мову. Зусім не гаварыў. Аднойчы пачуў па радыё знаёмую песню. Паспрабаваў зацягнуць мелодыю. Губамі варушыў у рытм музыкі. Спадабалася. З таго часу пачаў слухаць музыку і песні. Пасля некалькіх месяцаў пачаў вымаўляць паасобныя словы, затым сказы. Пашанцавала. Вярнулася мова. Пачуў прагу жыцця.

І калі чалавеку здавалася, што над яго акенцам засвяціла сонейка, быццам гром з яснага неба звалілася бяда. У суботу, 5 траўня, Уладэк падаўся пасля практыкаванняў дахаты на пропуск.

— Дванаццаць вуллёў маю, — казаў ад'язджаючы, — трэба пчолак дагледзець.

Нядзельку правёў у Бельску з сямейнікамі. На адвячорку вярнуўся ў бадзёрым настроі, як заўжды з песняй на вуснах. Калі падаўся ранкам у туалет памыцца, патэлефанавала жонка. Праз плач жонкі пачуў адно два сказы: «Прыязджай... Сын не жыве». Гэтае гора кампаньёна па палаце ашарашыла нас усіх. У палаце быццам марозным скразняком павеяла. Запанавала магільная цішыня. Уладэк пакінуў незавершанаю рэабілітацыю на тыдзень раней. Развітваючыся з намі з сумам змог адно прамовіць такія словы: «Няма нічога горшага на свеце, як бацьку пахаваць дарослага сына». А ягонаму сыну было толькі 44 гады. Пакінуў жонку з трыма дзеткамі.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Я за Еўропу

26 траўня ў краіне праходзілі выбары ў Еўрасаюзны парламент. Я быў прапісаны на спісак выбаршчыкаў трынаццатага закрытага ўчастка Гайнаўскага шпіталя. Як мне заявіла адна з членаў выбарчай камісіі, на спіску прапісаных было сто трыццаць сем выбаршчыкаў з правам голасу. Мая субяседніца сказала таксама, што ў закрытых участках не абнародваецца лік прысутных у прамежках часу. Гэтыя выбары адзначу «асаблівымі» ў дамашняй хроніцы, паколькі «трэфнымі» былі лічбы — трынаццаты ўчастак і мой нумар 100 на выбарчым спіску. Няўжо я ў Еўрасаюзе дачакаюся сотых угодкаў? Усё ж я прагаласаваў за Супольную Еўропу! Дарэчы, прысутнасць на нашым участку была невялікая. Гэта прыкмячалася па ўкінутых выбарчых бюлетэнях. Па ацэнцы маёй субяседніцы да 18 гадзіны прагаласавала не больш за пяцьдзясят выбаршчыкаў.

**(ус)**

# Студэнцкі хор з каледжа імя Рыгора Шырмы

**Размова з Тамарай ПАРФЁНАВАЙ, дырыжорам Моладзевага хору Дзяржаўнага музычнага каледжа імя Рыгора Шырмы з Берасця, які ўдзельнічаў у сёлетнім Фестывалі пяючай душы ў Беластоку.**



**— Хто спявае ў Вашым хоры: адны студэнты Вашага вучылішча ці можа таксама аматары спеву звонку?**

— У нашым хоры зараз спяваюць студэнты з розных аддзяленняў. Яны прыходзяць да нас, напрыклад, з інструментальных аддзяленняў. Харавы спеў аказаўся цікавым многім і яны самі прыходзяць і просяцца ў хор. Звонку могуць у нас займацца ахвотныя, але патрэбная там акрэсленая кваліфікацыя, адпаведная адукацыя і тады — чаму б не...

**— Асабістае пытанне да Вас: як даўно кіруеце гэтам хорам?**

— Год.

**— Які рэпертуар у Вашага хору: сакральная музыка ці можа і іншыя жанры?..**

— У апошні час мы рабілі ўклон у бок сакральнай музыкі, таму што мы рыхтаваліся да гродзенскага фестывалю „Каложскі благавест" і да фестывалю ў Польшчы. Але наша моладзь таксама вельмі любіць спяваць сучасную музыку, амерыканскіх кампазітараў, розную заграінчную музыку, таксама нашых сучасных беларускіх кампазітараў, прысутная ў нас і класіка. У прынцыпе ў нас рэпертуар разнастайны, але сёлета мы зрабілі ўклон у бок духоўнай музыкі ў сувязі з фестывалямі.

**— А дзе Вы канцэртуеце: бывалі ў Польшчы — ад Вас жа цераз Буг, як гаворыцца, шапкай кінуць?..**

— Сёлета мы былі ў Гродне, зараз мы ў Польшчы. Многа канцэртуем у сябе, у горадзе Брэсце. А ў перспектыве мы збіраемся ўдзельнічаць шырэй, нам гэта цікава.

**— Як Вам падабаецца фестываль у Беластоку?**

— Нам вельмі падабаецца фестываль у Беластоку; мы захоплены ім. Тут людзі прынялі нас вельмі душэўна, як родных. І мы вельмі ўдзячны за такую гасціннасць. І з вялікім задавальненнем яшчэ сюды прыедзем, калі нас запросіце ў госці.

**— Дзякую. Усяго Вам добрага.**

Пытанні і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Каўчэг Барыса Казлоўскага

Барыс Казлоўскі з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета закончыў рабіць макет Каўчэга Запавету. Для яго выканання выкарыстаў акацыевае дрэва ды памаляваў. Каўчэг выглядае быццам увесь з золата. Рабіў яго на працягу ўсёй мінулай зімы.

Чаго можам даведацца пра спрадвечны загадкавы Каўчэг, між іншым, з інтэрнэту? Прыгожую скрыню замыкала залатое века. У скрыні была палачка Аарона (якая зацвітала), збан з маннай і дзве каменныя скрыжалі з гравіраваным тэкстам Дзесяцю запаведзей. Каўчэг Запавету згадваецца ў Біблії.

Спадар Барыс і ягоная жонка Людміла займаюцца агратурызмам, вядуць гаспадарку „Бора-здруй". На іх вясковым вялікім панадворку па-суседску з лесам знаходзяцца шматлікія атракцыёны, між іншым, вялікі цагляны і накрыты медный бляхай макет колішняга царскага палаца ў Белавежы, макет Янтарнага пакоя, розныя сельскагаспадарчыя машыны і прылады музейнай вартасці, музейны драўляны дом аранжавага колеру (асабліва моладзь і дзеці любяць спаць у ім у летнюю пару года).



Пра свой новы набытак — макет Каўчэга Запавету — айчынным і замежным турыстам найлепш распавядзе яго праектант і выканаўца ды таленавіты расказчык Барыс Казлоўскі.

**PS.** Спадар Барыс нешта запаліў у скрыні і дым спавіў усё памяшканне. Мабыць, так трэба. А здымак шэры. Паехаў я ў „Бора-здруй" на другі дзень, у нядзелю, 19 мая, а спадарства Казлоўскія падаліся ў Белавежу. Вось табе і на.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## „Ніва" і чытачы

У маі гэтага года развозчыкі газет і часопісаў прадпрыемства „Рух" у Беластоку раптам перасталі пастаўляць беларускі штотыднёвік „Ніва" ў кіёскі і крамы ў Гайнаўцы і Нараўцы. Я шукаў родны часопіс і нідзе не было. Пачаў тэлефанаваць выдаўцу і пасля ўмяшання рэдакцыі сталі прывозіць, між іншым, у крамы ГС і „Аргелян" у Нараўцы. „Ніву" можна было ўжо купіць 23 мая г.г. (пасля месячнага перапынку).

У маі я ездзіў па „Ніву" у рэдакцыю ў Беласток. Двойчы. Чытачы з Новага Ляўкова, Новін і Плянты ды іншых вёсак Нараўчанскай гміны беларускі часопіс атрымалі ад мяне. Між іншым, шаснаццаць экземпляраў новаляўкоўцы, чатыры жыхары Новін ды па адным Плянты і Старога Ляўкова.

Найбольш зацікавілі іх артыкулы і допісы з Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Нараўкі і Гайнаўкі. Хто пастаянна чытае




„Ніву", той найлепш ведае якія. Прыгадаю толькі надрукаваны ў тым часе артыкул Міры Лукшы пад загалоўкам „Галене згарэла ўсё, што нажыла" пра цяжкі лёс жыхаркі Старога Ляўкова ды напаткаўшае яе гора („Ніва" № 18 ад 5 мая г.г.). **(яц)**



# У гурце як у сужонстве

Размова з членамі гурта **«Вясна»**.




**Юрка Буйнюк: — Сёлета Вы выпусцілі свой другі альбом. Колькі ў ім песень і на якой мове яны?**

**«Вясна»:** — 21 сакавіка 2019 года музычнае выдавецтва «Poparazzi» выдала другі альбом нашага гурта «WIERA, NADIEŻDA, LUBOW» з сямнаццаццю песнямі на беларускай, украінскай і рускай мовах.

**— Хто аўтар новых песень?**

— На нашым альбоме апрача вядомых народных песень ёсць чатыры аўтарскія песні, да якіх музыку напісаў Тамаш Трахімчук, а словы Віктар Швед і Міра Лукша. Гэта песні «Наша мама», «Наш тата», «Не забудзем хаткі» і «Глыбокая студня».

**— У рэпертуары маеце народныя і аўтарскія песні. Якія песні найбольш любіць публіка?**

– Калі ідзе пра новы альбом дык кожны слухач знойдзе на ім свае любімыя творы. На канцэртах і дыскатэках людзі найбольш любяць дынамічныя песні тыпу «Палюбіла я яго», «Смэрэко», «Чорны очка», «Чом ты не прыйшоў». Песня «Іхав козак» на нашым канале Youtube праслухоўвалася 123 тысячы разоў. Кожны твор, які выконваем, мае для нас вялікае значэнне і знаходзіць сваіх фанатаў. Мы іграем для публікі ўсіх узростаў — ад малышоў да пажылых людзей.

**— Першы альбом Вы выпусцілі ў варшаўскай фірме «Folk». Чаму менавіта другі альбом вы выпусцілі ў беластоцкім выдавецтве «Poparazzi»?**

— Калі ідзе пра беларускую, украінскую і рускую музыку дык яна самая папулярная на Падляшшы, паколькі тут пражываюць нацыянальныя меншасці. Музычнае выдавецтва «Poparazzi» мае сваю сядзібу ў Беластоку і апошнім часам падтрымлівае гурты, якія іграюць усходнеславянскую музыку. Таму мы пастанавілі, каб «Poparazzi» выпусцілі наш другі альбом.

**— Ці будзе магчымасць пабачыць вас на імпрэзах арганізаваных БГКТ, напрыклад, на Фестывалі «Беларуская песня»?**

— Не выключаем гэтага, але пра гэта даведаецеся ад нас пад канец 2019 года.

**— Чым Ваш другі альбом розніцца ад папярэдняга і адкуль рускамоўная назва «Вера, Надежда, Любовь»?**

— Назву альбому прыдумала наша вакалістка Бася. Творы на гэтым альбоме маюць пазітыўнае ўздзеянне. У сённяшніх, вельмі інтэнсіўных часах, дзе ўсё ідзе ў камерцыйным напрамку, найважнейшым астаецца толькі вера, надзея і любоў.

**— Зараз найлепшай формай прамоцыі для кожнага гурта з'яўляюцца відэакліпы да песень, якія гурты змяшчаюць на YouTube. Ці і Вы запішаце хаця б адзін відэакліп да навейшай песні?**

— Магчыма, што паўстане відэакліп. Зараз фейсбук дае вялікую магчымасць прамоцыі нашай музыкі ў Польшчы і ва ўсім свеце. Атрымліваем інфармацыю, што нашы песні падабаюцца людзям, якія не ведаюць нават беларускай, рускай ці ўкраінскай музыкі.




**— Вядома, што самай папулярнай беларускай імпрэзай з'яўляецца Сяброўская бяседа арганізаваная ўжо ад дваццаці гадоў у Гарадку. Ці ў гэтым годзе плануеце там выступіць?**

— Калі нас запросяць дык выступім.

**— Хто рабіў аранжыроўкі для Вашага альбома?**

— Аўтарам аранжыровак з'яўляецца Тамаш Трахімчук.

**— Адкуль у Вас зацікаўленне музыкай? З таго што я ведаю брат Тамаша — Дарафей таксама мае сваю музычную групу „Maxx Dance"?**

— Наша вакалістка Бася дванаццаць гадоў спявала ў царкоўным хоры ў Фастах. Тамаш у восем гадоў пачаў іграць на клавішных інструментах, а ў дванаццаць — на гітары. Кшысек любіў слухаць, калі яго дзядзька іграў на гармоніку. Усе нашы бацькі, дзядзькі і цёткі або спявалі ў хоры, або былі гарманістамі, акардэаністамі, кампазітарамі, аранжыроўшчыкамі або ды-джэямі.

**— Ці Вашы дзеці таксама цікавяцца музыкай?**

— Дзеці Басі і Томка вельмі любяць спяваць і іграць на інструментах. Выступалі ў шматлікіх музычных конкурсах. Дзеці Кшыштафа таксама любяць музыку — дачка танцуе ў танцавальным гурце, а сын іграе на флейце.

**— Пытанне да Басі. На якой мове найлепш Табе спяваецца — па-польску, беларуску, руску ці ўкраінску?**

— Гэта залежыць ад песні. На кожнай мове маю свае любімыя песні, якія запісаны на нашых альбомах. Найважнейшымі з'яўляюцца эмоцыі, якія плывуць з глыбіні сэрца.

**— Рэдка бывае, каб у гурце выступала сужонства. Як Вам, Бася і Тамаш, працуецца на адной сцэне?**

— Гурт «Вясна» складаюць тры асобы: Бася, Томэк і Кшысек. Нас спалучае адно хобі — музыка. У гурце як у сужонстве і часта прымаем рашэнні ўсе разам.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў **Юрка БУЙНЮК**




## АПУСЦЕЛАЯ ГАСПАДАРКА

Яшчэ пяцьдзясят гадоў таму жылі тут багатыя гаспадары.

Панадворак быў вялікі, агароджаны прыгожымі дошкамі, памаляванымі жоўтай фарбай. Брама і брамка былі сталёвыя, таксама памаляваным такім самым колерам.

На панадворку з правага боку дарожкі быў сад. Раслі тут яблыні, грушы, вішні, слівы і чарэшні. З левага боку быў агародчык з кветкамі. За кветнікам быў яшчэ меншы агародчык з зелянінай, каб гаспадыня вясной і летам мела прыправу да ежы.

У садзе стаяла студня, крытая драўляным дашкам жоўтага колеру. Каля прыгожага драўлянага дому рос ліловы бэз. Гаспадарчыя будынкі былі мураваныя, а гумно — драўлянае, вялікае. Гаспадары трымалі многа дабытку і свойскага птаства.

Вакол двара расцягвалася поле. І за дарогай яно цягнулася аж да лесу.

Мясцовасць стала ўжо горадам, але далей ад цэнтра хто хацеў, той і гаспадарыў.

Дзеці гаспадароў не хацелі быць сялянамі. Пайшлі працаваць на прадпрыемствах і атрымалі кватэры ў блёку.

Міналі гады. Гаспадары перасталі абрабляць палеткі і толькі даглядалі панадворак. Пасля памерлі.

Праз пару гадоў здзічэлі двор і поле. Ноччу хтось украў плот. Браму і брамку хтось зняў ды прадаў на скупцы лому. З калодзежа хтосьці сарваў дашак і вырваў першы круг. Двор і поле зараслі высокай травой. Не было відаць агародчыкаў, хаця былiны далей цвілі.

Каля дому разросся куст ліловага бэзу, які засланіў трэць будынка. Побач вырасла некалькі сосен. Каля гумна і гаспадарчых будынкаў разраслася чорная бузіна. Поўна тут малачаю, падагрычніку і ластаўчыннага зелля ды крапівы. Разбуяў тут амерыканскі залатарнік.

У садзе далей растуць яблыні, грушы, слівы і вішні. Выраслі таксама кусты палявой ружы і ляшчыны. Каля тратуара разрасліся слівы. Аднойчы быў такі ўраджай чарнасліву, што галіны аж угіналіся. Панадворак так зарос, што ледзь было відаць будынкі. За дарогай поле таксама зарасло рознымі кустамі, дрэвамі, крапівой і амерыканскай навалаччу — залатарнікам.

З польнага гушчару сталі прыходзіць на апусцелы двор лясныя звяры. Штодзень прыбягалі статкамі сарны і алені. Аднойчы блізка вуліцы брыў стары дзік. Бяздомныя сабакі кінуліся на яго. Дзік спалохаўся і ўцёк. Больш не прыходзіў. Сарны і алені часта перабягалі дарогу. Шмат разоў здаралася, што вадзіцелі ледзь паспелі спыніць самаход перад звярамі. Гэты кавалак дарогі быў ужо небяспечны.

Аднойчы прыйшоў дрывасек. Зрэзаў слівы каля тратуара, кусты дзікай ружы і вішні.

Звяры перасталі прыбягаць.

Суседзі апусцелай гаспадаркі спадзяюцца, што ўрэшце гарадскія ўлады зоймуцца гэтай справай. Усе ўпэўненыя, што такі кавалак зямлі павінен трапіць у дбайныя рукі. Цяпер толькі страшыць сваім выглядам.

Ірэна ЛУКША



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Не забуду да канца жыцця!

Чатырнаццатага красавіка 2019 года сем вучняў і трох настаўнікаў ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім прыехалі на абмен вучнямі ў Балгарыю ў рамках праграмы Erasmus+ „Heritage of us”. Мы жылі ў сталіцы краіны Сафіі. У Балгарыі былі таксама вучні і настаўнікі з Партугаліі, Латвіі, Турцыі. Мы былі там на працягу сямі дзён.

Амаль кожны дзень мы былі ў адной са школ Сафіі, удзельнічалі ў розных занятках на тэму культуры і балгарскіх традыцый. Мы танцавалі, малявалі велікодныя яйкі, рабілі нацыянальныя бранзалеты і лялькі. Калі настаўнікі працавалі над праектам, мы наведалі школы, былі на занятках, гулялі ў мяч з мясцовымі вучнямі. Кожны дзень на абед елі традыцыйныя балгарскія стравы.



У панядзелак мы былі на прывітальнай вячэры. Была магчымасць пакаштаваць там розных страў, торт, аліўкі, булачкі, мяса... Вельмі смачна! У час вячэры мы маглі танцаваць з прафесійнымі танцорамі. Штодзённа пасля абеду мы наведвалі гістарычныя месцы. Мне найбольш спадабалася царква Аляксандра Неўскага. Гэта найбольшая царква ў Балгарыі з прыгожымі фрэскамі і іконамі XIX стагоддзя. Мы бачылі Боянскую царкву, Нацыянальны і Рэгіянальны музеі, гістарычны квартал Плоўдзіў.

На працягу сямі дзён усе ўдзельнікі праекта (палякі, партугальцы, туркі, латышы) паказвалі сваю культуру. Мы танцавалі нашы беларускія народныя танцы і спявалі беларускія песні, прадстаўлялі мультымедыйную прэзентацыю аб Польшчы і Падляшшы, частавалі ўсіх нашай польскай ежай.

Гэта вялікі досвед, якога я не забуду да канца майго жыцця!

Паездка была для мне ўзнагародай і паказала як важным з'яўляецца веданне замежных моў.

Не менш важным для мяне было знаёмства з сябрамі, якія як і я, хочуць пазнаваць свет.

**Матэвуш Асташэвіч**
VI „ц” клас ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім імя Яраслава Кастыцэвіча



Так жылі нашы продкі. Макет вучняў з Гарадка

Васіль Вітка

## КНІГАЎКА

Падаюся ў бок другі,
Праз папар, праз мурагі,
На прырэчныя лугі.
Раптам нізка нада мной,
Па-над самай галавой:
— Чый ты, чый? Кі-гі, кі-гі!

— Я то свой, а ты чыя,
Кнігаўка самотная,
Птушка пералётная?
Калі зробіш ласку,
Знойдзеш маю казку —
Буду век удзячны я.

— Чый ты, чый? Адкуль такі?
Дзе жыву я — не скажу
І гнязда не пакажу...
І вядзе ўсё ад ракі,
Ад высокай асакі
І крылом над вухам: ж-жу!
А ля самае дарогі
Кідаецца мне пад ногі,
Скокам-бокам адпаўзае,
Ну, здаецца, паміpae,
Папрабуй жа дагані —
Не дагоніш на кані.
Мне гняздо тваё не трэба,
Ні твае малыя дзеці.
Лётай з ранку і да ранку
Пад высокім добрым небам,
Пацяшай людзей на свеце,
Ашуканка, ашуканка...

## УВАГА КОНКУРС! № 22-19

**Зялёная, а не луг,**
**белая, а не снег,**
**кучаравая,**
**а без валасоў.**
**(Б.....)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 16 чэрвеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 18: адуванчык.**

**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Аляксандра Бакун, Аляксандра Якімюк з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Клаўдзія Ніканчук, Сара Дарпенская з Нарвы, Лукаш Дзюбанос з Орлі, Мартына Сцепанюк, Дар'я Лажэцкая з бельскай «тройкі». Віншуем!**

# Варшава ў «Ніве»



У апошнюю пятніцу, 24 мая г.г., не зачыняліся дзверы ў нашу рэдакцыю. Раніцай наведалі нас доўгачаканыя вучні з Залук. А пасля абеду зноў мілыя госцейкі! Да нас завіталі вучні і бацькі беларускай школы ў Варшаве, з настаўнікам, спадаром Зміцерам. Спачатку мы пазнаёміліся і крышку пагаварылі пра творчасць дзяцей і ніўскіх аўтараў. А Міра Лукша на асалоду стомленым госцейкам прачытала вершы з культавага тома «Жывінкі з глыбінкі». Раней наладзілі яны экскурсію з Аляксеем Трубкіным па Беластоку, пабывалі ў Праваслаўнай школе і на Радыё Рацыя. На памятку сустрэчы мы падарылі навейшыя ніўскія кніжкі і дамовіліся на творчае супрацоўніцтва з варшаўскімі школьнікамі. Беларускую мову вывучаюць яны ад двух гадоў. Дзеля гэтага сустракаюцца па суботах. Іх настаўнік даязджае ажно з Кракава, дзе працуе выкладчыкам універсітэта. Большасць дзяцей ведае беларускую мову з хаты. Яны зацікаўлены сяброўствам з аднагодкамі з Беласточыны.

**(гк)**

*(падляшская народная легенда)*

## Чараўніца-разбойніца

Дзесьці пяць кіламетраў за Заблудавам, па дарозе, што вядзе на Геранімова, з правага боку ўзвышаецца горка Татарка. Кажуць, жыла там чараўніца-татарка. Рэдка хто мог спакойна прайсці, праехаць ля яе хаты. Вядзьмарка даганяла падарожнікаў і моцным крыкам збівала з ног коней і людзей, а потым душыла іх на сваіх грудзях.

Як агню баяліся людзі гэтага месца.

І ўсё працягвалася б вельмі доўга і многа людзей загінула б, калі б не адзін выпадак.

Здагадлівы фурман, які вёз пана ў маёнтак Геранімова, накрыў коней кажухамі, а сам і пан схаваліся за дрэва. Вядзьмарка спыніла жудасным крыкам коней і падушыла іх. Тым часам фурман адарваў сярэбраны гузік у панскім сурдуце ды зарадзіў ім стрэльбу. Ён ведаў, што звычайная куля не ў змозе забіць чараўніцу. А так ён пацэліў і паклаў адным махам разбойніцу. Ад здзіўлення яна памерла з адкрытым ротам. Людзі кажуць, што замест крыві выцекла з разбойніцы калюга смярдзючай смалы.

** Легенда апублікаваная ў Этнаграфічным зборніку Шэйна, запісаў яе вучань Свіслацкай настаўніцкай семінарыі В. Клімюк з Беластоцкага павета напрыканцы XIX ст. Сучасная апрацоўка ГК.*

Вучні шостага класа з Гарадка зрабілі макет старой хаты. Так жылі нашы продкі. Малгося Серафін, VI клас

Паўліна ЁДЛА,
ПШ н-р 3
у Бельску-Падляшскім

### Ваня і грады

Ваня зранку ваду носіць,
Каб агародчык паліць Зосі.
А яна яму гаворыць:
— Палі яшчэ памідоры.
Ваня цяжка ўздыхнуў,
Узяў вядро і хлюпануў.
У вадзе плывуць памідоры!
Ваня кажа: — Я ўжо хворы!
Вось падліў дык падліў!
І сябе як памачыў!
Зося Ваню так шкадуе,
Дагаджае і пільнуе,
Каб заўсёды быў здаровы
І насіў ёй ваду з рову.

## Польска-беларуская крыжаванка № 22-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 18-2019:**

Нарва, пан, ты, мінак, спор, ох, параход, карова, Іран, чартапалох. Неба, рэч, арт, Кіпр, выспа, парода, мора, пірагі, фан, хор, нагода, код, нюх.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Кацпэр Каліноўскі, Наталля Петручук** з Нарвы, **Сара Марціновіч, Габрыель Пах, Бартэк Гоф, Павел Міронччук** з Орлі, **Аляксандра Іванюк, Юстына Астапковіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Аляксандра Весялоўская, Зузя Скрабская** з ПШ № 3 з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Iskra, Igor, Helena, Raj, Wyżeł, Język, Sałatka, Żuraw, Rynek, Znak, Głowa, Żyrafa, Klej, Uszy, Dźwig, Jeż, Hun, Uran, Pi, Kwas, To, Skarb, Lawa, Szalony, i, Zryw, Kino

# У Міжземным моры

**Самалёт узбіваецца ў начное неба. Унізе астаюцца залатыя каралікі вулічнага і аконнага асвятлення Варшавы і наваколля, быццам глыбкі казачных Кландайка ці Эльдарада. Пасля няпоўных трох гадзін зноў паказваюцца залацістыя пункты прыбярэжных гарадоў, падвоеныя ў марскім люстры. Яшчэ крыху і грукат кол шасі па пасадачнай паласе пачынае тармажэнне аэраплана. Пасля высадкі пасажыраў вітаюць сканеры, якія счытваюць закадзіраваныя ў пашпарце даныя і робяць здымак прыбываючага, выкідаючы адмысловую паперку, здаўшы якую пагранічніку, можна ступаць навонкі аэрадрома, на асаблівую зямельку, якая распаложная ў цывілізацыйным пупе свету, між Азіяй, Афрыкай і Еўропай.**

Аэрапорт Ларнакі быў паспешна разгорнуты пад канец 1974 года пасля інвазіі Турцыі на Кіпр 20 ліпеня таго ж года, якая прывяла да закрыцця міжнароднага аэрадрома ў Нікасіі. На гэтым месцы было лётнішча, якім з 1930-х гадоў карысталася брытанская армія. Міжнародны аэрадром у Ларнацы пачаў дзейнасць 8 лютага 1975 года з надта сціплай інфраструктурай. Турыстычная прыцягальнасць Кіпра прывяла да таго, што аэрапорт у Ларнацы скора стаў абслугоўваць пяць мільёнаў пасажыраў у год, удвая больш, чым было разлічана на такія ўмовы. Таму ў 1998 годзе пачалася суцэльная разбудова аэрадрома з мэтай задаволіць стандартнае абслугоўванне ўсё ўзрастаючага пасажырскага патока. Апрача аэрапорта ў Ларнацы ў незанятай Турцыяй частцы Кіпра дзейнічае яшчэ аэрадром у Пафасе.

Гісторыя Кіпра сягае ў глыбіню тысячагоддзяў; асноўны турдаведнік згадвае пра дзесяць тысяч гадоў гісторыі і культуры. Праз гэтыя тысячагоддзі на Кіпры напластоўваліся вельмі розныя культурныя слаі. Усе вядомыя гістарычныя цывілізацыі Міжземнага мора дакраналіся да выспы. Завіталі туды старажытныя егіпцяне, фінікійцы, карфагенцы, персы, грэкі, рымляне. А ў больш навейшы час візантыйцы, арабы, крыжаносцы, венецыянцы, туркі, англічане... І гэты пералік вельмі няпоўны, бо ж і ў дагістарычны, дапісьмовы час мацерыковых людзей гнала цікавасць заморскага свету.

Як тыя ўсе старажытныя заваёўнікі авалодвалі Кіпрам — невядома. Але ўжо сярэдневяковая пісаная гісторыя дае нейкае паняцце пра складаную яго гісторыю. Вось у 1571 годзе турэцкае войска асадзіла Фамагусту, якая да тае пары знаходзілася пад венецыянскім панаваннем. Венецыянцы цвёрда бараніліся перад значна лічнейшымі сіламі праціўніка. Але сілы абаронцаў вычэрпваліся, таму камандуючы абаронай Марк Брагадзін вырашыў здацца пад гарантыяй беспераводнага вяртання сваіх тавары шаў на радзіму. Аднак туркі не стрымалі дамовы. Камандуючы аблогай Мустафапаша асабіста накінуўся на Брагадзіна і абрэзаў яму вуха. І зараз пачалася разня, у выніку якой абезгалоўлена трыста пяцьдзясят венецыянцаў. Самога Брагадзіна мучылі яшчэ два тыдні, пасля чаго 17 жніўня 1571 года з жывога здзерлі скуру, напхалі яе саломай і завезлі султану ў Канстанцінопаль. Чатыры гады пазней скура героя была выкрадзена італьянцамі, падкупленымі туркамі і перавезена ў Венецыю, дзе зараз захоўваецца ў Саборы Санці-Джавані э Паола...

Туркі заваявалі Кіпр яшчэ ў апагеі магутнасці сваёй дзяржавы, 118 гадоў пасля захопу Канстанцінопаля і 12 гадоў да паразы сваёй арміі ад караля Яна III Сабескага пад Венай. Пасля Асманская



Помнік прэзідэнту Макарыосу ў Ларнацы



Дарога ў аэрапорт Ларнакі




імперыя стала слабець і ў XIX стагоддзі трымалася перад суседзямі толькі дзякуючы палітычным манёўрам тагачасных магутнасцей. Менавіта каб зусім не разляцелася турэцкая імперыя, яе ўлады аддаюць у 1878 годзе Кіпр пад брытанскае панаванне. Вялікабрытанія разгортвала сістэму ваенных баз на шляху ў Індыю, бо тым шляхам стала пагражаць рвучаяся да панавання над Балканскім паўвостравам, над пралівамі з Чорнага ў Міжземнае мора і над усім Левантам Расія. Брытанцы стварылі сістэму ваенных баз з Гібралтарам, Мальтай і Кіпрам, якая ахоўвала суднаходства цераз акурат пракапаны Суэцкі канал. Неўзабаве брытанцы ўстанавілі панаванне на Егіптам і Кіпр крыху страціў на значэнні, але ўсё ж захоўваўся пад іх панаваннем. Да 1960 года, калі на хвалі дэкаланізацыі Кіпр дабіўся незалежнасці ад Лондана. Ад брытанскага панавання астаўся там на сёння левастаронні дарожны рух...

Аднак гэтую незалежнасць маладой дзяржавы расколвалі міжэтнічныя рознагалоссі. Каля васьмідзесяці адсоткаў насельніцтва выспы складалі тады грэкі, а пад дваццаціпрацэнтную меншасць складалі туркі. І як гэта ў такіх выпадках бывае, тыя грэкі, захопленыя ідэяй *энозіс* — уз'яднання з этнічнай радзімай, замарылі пра далучэнне ўсяго Кіпра да Грэцыі. Сталі яны памаленьку дакучаць сваім суседзям, з якімі пад брытанскім панаваннем жылі ў адносна мірным сімбіёзе. Паявіліся аматары этнічнай чысткі краіны, прэзідэнт Кіпра архірэй Макарыос быў увесь час пад розным ціскам; неахвотна ставіліся да яго туркі, а варожа ставілася да яго і частка кіпрскіх грэкаў. Таксама неабыякавыя да падзей на Кіпры былі і вялікія дзяржавы, у тым ліку Вялікабрытанія, ЗША і, вядома, Савецкі Саюз.

Напружанне на Кіпры расло і 15 ліпеня 1974 года кіпрскія грэчаскія ваенныя скінулі з пасады прэзідэнта Макарыоса, які збег на Захад, і на яго месца паставілі Нікаса Сампсана, які раней быў баевіком грэчаскіх параміліітарных атрадаў. Над турэцкай меншасцю Кіпра навісла сур'ёзная небяспека. 20 ліпеня турэцкае войска ўварвалася на Кіпр; Грэцыя, якою тады правіла ваенная хунта, не магла дапамагчы сваім супляменнікам. Кіпр быў падзелены на грэцкую, паўднёвую частку вострава, і турэцкую, паўночную. У выніку адбылася своеасаблівая этнічная чыстка — грэчаскае насельніцтва было вымушана ўцякаць на поўдзень, турэцкае — на поўнач. Прэзідэнт Макарыос вярнуўся на пасаду прэзідэнта грэчаскай часці Кіпра ў снежні 1974 года і аставаўся на ёй да сваёй смерці 3 жніўня 1977 года.

Кіпрскія ўлады намагаліся на міжнароднай арэне вываду турэцкіх войск з выспы; прэцэдэнтам было выгнанне іракскіх войск з Кувейта. Аднак вялікія дзяржавы сталі заложнікамі турэцкай палітыкі, яе магчымых меандраў у пошуках іншых, чым раней натаўскіх, саюзнікаў. Кіпр зараз падзелены дэмаркацыйнай лініяй, моц якой з ходам гадоў слабее і зараз яе цікаўны турыст можа на непрацяглы час перасеч на аснове асабістага дакумента. А Кіпр, яго грэчаская частка, быў у 2004 годзе ў ліку дзесяці ўсходнееўрапейскіх краін, у тым ліку і Польшчы, далучаны да Еўрасаюза. І зараз Кіпр з'яўляецца даволі прыцягальнай турыстам краінай; асабліва многа прыезджага народу размаўляе на расійскай мове. А ідэя *энозіс* жывая — на Кіпры больш грэчаскіх, чым кіпрскіх дзяржаўных сцягоў...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Працаваў канём ужо ў падставоўцы

Размова з **Міхалам КАРНЕЕВЫМ**, 1947 года нараджэння з Орлі.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

**— Ці Вы помніце сваіх дзядоў?**

— З сястрой Надзяй ездзілі мы ў Тапчыкалы распытаць, можа хто ведае. Бо калі дзед Дзяніс прыступіў да бабулі, то ў яе было ўжо двое дзяцей. Бо ў Тапчыкалах ёсць такое прозвішча — адкуль яно ўзялося? Але нічога не даведаліся. На могілках ёсць магілы толькі з крыжамі, ёсць і без нічога. І невядома, хто там пахаваны. Калісь не дбалі пра памяць, а да таго яны яшчэ і жылі бедна. Пра бабулю ведаю толькі, што яна з жонкай Пятра Русіновіча сёстры.

**— Ці бацька Аляксандр расказваў пра бежанства?**

— Расказваў, што калі ехалі назад, то ягоная маці хавала грошы ў шматку для выцірання печы ў вагоне. Бо на станцыях людзей выганялі салдаты і рабілі праверку, і забіралі ўсё. То маці так хавала і таго ніхто не забраў.

**— Пры Вашай памяці тут, за Орляй, дзеці пасвілі коней, быдла...**

— Як пагонам пасвілі коней — таго я не памятаю. Памятаю, што за Орляй хадзіў пагон авечак і кароў. А коней кожны пасвіў сваіх — па равах, аблагах. Летам вадзілі на поранкі ўжо ў дзве гадзіны раніцы, а калі ўжо *гезы*, авадні, дакучалі, то ўцякалі дадому, а пасля поўдня зноў выводзілі.

Помню свайго першага каня, быў чырвоны і лысы, звалі яго Срэбрным вочкам, бо вельмі блішчэлі ў яго вочы, як у зайца. Калі выпасалі коней на аблагах, то ўжо не было ім чаго есці і тады сядлалі іх і ехалі на кашалёўскі луг. Коні елі, а калі паказваўся кашалёвец, то ўцякалі. Поле называлі Крывятыцкім, а за жарлом Тураўскім. Былі там аблагі і там пасвілі.

**— А як гулялі дзеці?**

— Летам, калі бацькі выходзілі ў поле, то дзеці заўсёды аставаліся дома. Не было ніякіх нянек. Мне мама заўсёды пакідала ежу за хляўком у гаршку на цэлы дзень; а хата была закрыта. А мы, дзеці, сядзелі тут на лавачцы, у Харуя. Збіраліся і — на раку. Выкупаемся і зноў на лавачку. На Арлянцы мелі сваё месца насупраць Адзіевіча, была там файная ямачка. Часам надыходзіла хмара, то чакалі, калі пасвятлее і зноў туды вярталіся.

Мая мама была з Амільяновічаў, нарадзілася ў бежанстве. Першая жонка бацькі была дачкой Ляшэвіча, памерла ва ўзросце 17 гадоў.

**— Ці Ваш бацька ўспамінаў жыдоў?**

— Добра ўспамінаў; бацька добра з жыдамі жыў. Многа пра іх расказваў, але цяжка было ўсё гэта запамятаць.

**— А Вашы сямейнікі?**

— Я быў наймалодшы. Сястра Надзя з 1939 года, а Ніна з 1942 года. Сястра мяне пільнавала. Памятаю: сястра сядзела на парозе, чытала, а я, пяцігодак, узлез на чаромху, упаў на зямлю, ударыўся. Калі ўпаў на зямлю, то сястра сарвалася да мяне, а я падумаў, што ўжо яна мяне правучыць і ўцёк на вуліцу.

**— Як успамінаеце сваё дзяцінства, прадшколле?**

— У прадшколле хадзіў толькі адзін год і то хіба толькі ў час канікул. Было гэта бадай перад школай. У той час сялянскіх дзяцей хіба не бралі ў прадшколле. Бацька працаваў у майстэрні геэсу, а калі я пайшоў у школу, то бацька стаў на працу ў кафлярню. Бацькі мелі пяць гектараў зямлі, каня, карову. Бацька абрабляў поле, а пасля і я стаў гэтым займацца. Як быў яшчэ вучнем падставоўкі, то ўжо сам канём прыворваў, выворваў бульбу. Быў малы і з-за плуга ледзь было мяне відаць.



Таня і Міхал Карнеевы

**— Цяпер у Арлянцы няма рыб і ракаў. А тады — якая была рака?**

— Мы, дзеці, лавілі рыбу кошыкам або шматкай. Найбольш было альшанак і рабілі з іх катлеты. Ракаў лавілі мы *ракаўніцай*, сачком — быў з дроту і сеткі, а пасярэдзіне клалі жабу без шкуры. А варылі іх ужо бацькі, дома; былі вельмі смачныя. З вечара заходзілі ў адно такое месца і проста рукамі грузілі ракаў у кош. Побач жыла Фенька Стэльмашукова, якая наварыць цэлы чыгун ракаў. Мы пад'ямо і на сена спаць.

У Арлянцы было многа рыб. Лавілі вудачкамі і міліцыя ганяла, бо ўжо пачалі ўводзіць вудзільныя карты. А дзеці тае карты не бралі.

**— Я таксама яшчэ памятаю, што ў Арлянцы былі ракі, аднак яны загінулі. Чаму?**

— Ракі сталі гінуць пасля пажару Рудутаў. Я з бацькам заграбаў тады *шыкуцце* каля Зялёнага дуба і акурат успыхнуў пажар у Рудутах. Пасля пажару Рудуты адбудоўваліся, людзі вёдрамі чэрпалі ваду з Арлянкі для гашэння вапны. І неяк з тае пары сталі гінуць ракі, хаця, здаецца, не павінны. А ракі любяць вельмі чыстую ваду.

**— Ці ў час Вашага дзяцінства дзеці цікавіліся панішчанай вайной сінагогай?**

— Не ведаю чаму, але ўвесь час лазілі на верх будынка. І на скляпенне, на аркі, на вышыню звыш дзясятка метраў ад зямлі. Але не ведаю, якім быў той мацуючы раствор, што цэгла на скляпенні ляжыць плоска. І якія мы былі дурні — ставалі нагамі на адну цэглу і *гердаліся* (скакалі). Так моцна звязваў той раствор. У той час у сінагозе яшчэ не складзіравалі фертылізатараў.

Ці кідалі па сценах? Напэўна многа чаго пабілі. Але цалялі там у гнёзды. Былі там дзіркі бадай па драўляных бэльках і ў тых дзірках рабілі гнёзды галубы і вароны. То ўвесь час хадзілі і камянямі збівалі тыя гнёзды, а калі не трапіў у гняздо, то траплялі па фрэсках. А калі ўжо ГС стаў складзіраваць там фертылізатары, то сінагогу закрылі і не пускалі. Але лазілі, толькі менш. Нехта складзіраваў там салому, сена.

Памятаю, што аднойчы першамайскае шэсце адбывалася перад сінагогай, стаяла там трыбуна. У той час не было яшчэ новых пляцоў за сінагогай, на месцы жыдоўскіх могілак.

**— Ваша адукацыя, першая праца?**

— Пасля падставоўкі закончыў двухгадовую Школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Орлі. Вучыліся ў будынку, дзе сёння Банькоўскі, ад панадворка. За старым будынкам Гміннай управы было сабрана ўсё тадышняе абсталяванне школы: садзілкі, бораны, плугі з такім шнурам, якім падымалася кола, трактар „ляпатун”... Пасля з таго „ляпатуна” шарняне павыцягвалі гумавыя камеры на галёшы...

Побач, за гаспадарчым будынкам, быў гадавальнік саджанцаў таполяў, якія пасля садзілі побач дарог. Гэта была быццам такая палітыка на выпадак вайны — калі будуць ехаць дарогай, то не будзе відаць; то так тады гаварылася, што таполі для вайны...

Пасля школы астаўся ўжо дома. на гаспадарцы. Цяслярству навучыўся пры бацьку, калі стаўлялі свой дом. Калісь, калі хто меў галаву і хацеў, той вучыўся. Я лічу, што багацейшыя людзі не вучыліся, разлічваючы, што нехта прыйдзе і зробіць. Мы з бацькам усё рабілі самі.

**— Абавязковыя пастаўкі?**

— Спаганялі. Бацька ўвесь час у пункце скупкі жывёлы адкупляў ад тых, хто здаваў звыш плана. І на збожжа планы былі. Даўней у людзей былі плугі кавальскай вытворчасці, вельмі цяжкія і нязручныя; такі быў і ў нас. Помню, як завезлі здаваць збожжа. Планавае жыта скуплялі па 120 злотаў за метр, а звышпланавае па 180. Прымалі тады Колька Гаўзюк і Колька Лемеш. У жалезнай краме прадаўцом быў Дэнісевіч. То за метр жыта, за 120 злотаў, бацька купіў плуг.

**— Ці ў Орлі быў калгас?**

— Калгас завязаўся недзе каля 1953 года. Прымусу не было, запісваліся дабравольна. Гадавалі кароў. Хто ішоў у калгас, той аддаваў свой дабытак. А ў 1956 годзе калгас ужо распусціўся, бо пачалася камасацыя грунтоў. У калгасных будынках зладзілі пункт скупкі жывёлы, а пасля ГС гадаваў там свіней для патрэб гасподы.

На месцы жыдоўскіх могілак, з якіх у час нямецкай акупацыі намагільнікі пабілі пад маставую дарогі з Орлі ў бок Бельска-Падляшскага, мясцовы ЛЗС устроіў спартыўную пляцоўку з бегавой дарожкай і месцамі для скокаў — дзеля трэніровак. А мы, дзеці, гулялі побач і, бывала, дражніліся з быком, які вяртаўся з пагонам кароў з пашы каля прыходскіх могілак. Пастухом быў Казік Гняздоўскі, у яго быў доўгі біч, якім „страляў”. Мы дражнілі быка і той бык пачаў нас ганіць. А калі Казік стрэліў са свайго біча, тады бык вяртаўся ў пагон.

**— Ваша праца па-за домам?**

— Працаваў у мясцовай бетанярні і хадзіў на курсы трактарыстаў. І стаў на працу трактарыстам у мясцовым сельгасгуртку. Кнігаводам там быў Шурык Пятроўскі, бюро меў у сваім доме. Прэзэсам быў „Жоржык”, пасля коратка Коля Стэльмашук. Сельгасгурток узнік недзе ў 1959-1960 годзе. Былі трактары: два чэхаславацкія „Зэтаркі” — адзін на малых колах, другі на высокіх. Пасля „Урсусы”: „28”, „25” і „Супер” — найбольшы, якім ездзіў Толік Гайко, пасля Панэк са Шчытоў і Вася Лемеш з Міклашоў. Працаваў да восені 1966 года, калі прызвалі ў войска. А калі вярнуўся з войска, то ўжо былі МБМ-ы (міжгуртковыя машынныя базы).

**— Заўсёды цікавае пытанне: як было ў войску?**

— Служыў два гады і два дні; крыху даўжэй. Калі ехаў у часць, то мы, прызыўныя, здорава папілі ў Бельску і яшчэ ў дарозе. У Беластоку трапіў у г.зв. „матысякоўку” — выцверазнік. У запас спазніўся на адзін дзень, то і служыў пазней дзень даўжэй. Усіх прызыўных стрыглі тады дагала.

Служыў у Злаценцу, у Кашалінскім, 60 кіламетраў ад Шчацінка. У часці было пяць танкавых рот, адна пяхотная, сапёрная, транспартная, хімічная, усяго калі сямісот чалавек, бо на стольких рыхтавалі бульбу. На *obierak* роты хадзілі пачаргова, і тая, якая абірала, на другі дзень не хадзіла на абед. У штрафным парадку, бо недакладна абіралі, кідалі з лупінамі. Бывала, што абіралі толькі палову бульбы. Вясковыя хлопцы абіралі лепш, гарадскія не хацелі...

**— А як у той час было з адносінамі да праваслаўных хлапцоў?**

— Пра тое, што я праваслаўны, даведаліся ўжо з першага дня, бо пасля запою, калі мяне рана будзілі, я спрасонку адказваў: „Я шчэ спаты хочу”. Не быў я свядомы, дзе знаходжуся. Ну, і адразу да мяне, што я *кацап*... Камандзір дружыны быў з Ломжы, бо тыя з Памор'я не ведалі, што гэта абазначае.

А пасля ў нашу часць вельмі часта прыязджалі рускія афіцэры. Мы, праваслаўныя, аднойчы папілі з шафёрам тых афіцэраў і пыталі пра значэнне слова „кацап”...

**— Ці ў салдатах былі землякі з Беласточчыны? Ці размаўлялі па-свойму?**

— Было двух з Бельска: Гарбацэвіч і Фалькоўскі, з Градалёў Колька Амельянюк, з Крывятыч, двух з Гайнаўкі. Між сабою размаўлялі мы па-свойму. А той Гарбацэвіч з Бельска па-польску амаль не размаўляў, нават з камандзірам палка размаўляў па-свойму. Казаў, што яны мусяць разумець яго гаворку.

Я быў ротным шафёрам. У роце было 64 танкістаў, а я, 65-ты — шафёр „Стара” з прыводам на ўсе колы. Вазіў палаткі, амуніцыю. З Орлі ў танкістах служыў у Чорным, за Шчацінкам, Міхал Рынгайла. Я сустрэўся з ім, калі ездзіў туды па танкавы рухавік. Танкістам з Орлі быў яшчэ Янак Русачык.

чытайце ☞ 10

9 ☞ працяг

# Працаваў канём...

**— Вы служылі далёка ад дому. Ці бывалі ў водпуску? Ці давалі авансы?**

— Цягам першага года меў сем дзён, быў адзін раз. Аднойчы, пасля вяртання з палігона, камандзір, які ездзіў „М”-кай з каўшом, спытаў мяне, што я больш хачу: „бэльку” ці пяць дзён водпуску; я выбраў водпуск.

Войска гэта было два гады перапынку ў біяграфіі.

**— Ці бралі Вас у запас?**

— Раз быў, у Беластоку, на Кавалерыйскай — прымерыў толькі вопратку, загрузіў у мяшок, і тады сказалі, што калісь прызавуць. Прайшло шмат часу, а было гэта ваеннае становішча, атрымаў павестку ў камендатуру ў Бельску, бо тады набіралі ў ZOMO (Zmotoryzowane Odwody Milicji Obywatelskiej). Было там нас каля пяцідзесяці чалавек. І там апытанне, пыталі, дзе працую. Спыталі, калі хачу пайсці ў запас, а я адказаў, што найлепш пасля дзясятага, каб выплату ўзяць; я тады працаваў у бетанярні. „Ага, так добра, можа ў маі”, — адказалі.

Зноў паклікалі ў камендатуру і пытаюць пра поўную назву прадпрыемства; у той час камендантам быў Табар. А я адказваю: „WGR, dyrektor. Własne Gospodarstwo Rolne”. І цэлая зала зарагатала, а той не ведаў, што адказаць. Неяк пасля двух тыдняў прыйшоў мясцовы міліцыянт Сашка Стэпанюк і забраў мабілізацыйную карту. Я дадумаўся, што пэўна я там непатрэбны; і гэта мяне абмінула ў час ваеннага становішча.

**— Запытаю пра „зіму стагоддзя”: ці Вы хадзілі ачышчаць ад снегу ў рамках шарварку?**

— Шмат разоў. Малым „ДТ-75” ездзіў Зютак Назарэвіч, цэлую зіму ім працаваў. Мы капалі, а ён нівеліраваў. Тады каля школы, старой гміны, так засыпала снегам, што немагчыма было расчысціць. Прыехаў вялікі раздзьмухвальнік на бакі, то людзі казалі, што трэба аканіцы зачыняць, каб шыб не пабіў. Але ў самой Орлі тая машына прайшла толькі каля старой гміны. І помню, што ў будынку гміны, хаця да яго ад вуліцы пад дваццаць метраў, пабіла вокны. (Снежныя зімы былі ў 1960-х гадах, „зімы стагоддзя” ў 1973 і 1978/79 гг. — М. М.)

**— Вы таксама заслужаны пажарнік; і Ваш тата быў пажарнікам...**

— Пажарнікам я стаў, калі ў 1960-х будавалі грамадскім чынам дэпо па вуліцы Пасвентнай. Старое мураванае дэпо па вуліцы Першамая было малое. А сушарня шлангаў з сірэнай наверсе была збудавана з ветрака жыда Янкеля Бушліца, што стаяў за Орляй. На будову новага дэпо бралі цэглу з цагельні Антанова. Быў пажарны самаход „Стар”, г.зв. „штыўны”, то на ім жвір самі вазілі.

На свята Івана і на Першамай вуліцамі Орлі заўсёды ехала пажарная машына і круцілі ручную сірэну. Мы, вучні, уцякалі са школы, каб ехаць на самаходзе, а не ісці ў шэсці. Янак Дэмбарчук быў шафёрам, хаця не меў вадзіцельскага права. Каля „Карача” быў на дарозе стары драўляны масток, то аднойчы паламаўся пад самаходам; і тады зрабілі бетонны мост.

Пажары? Часта пажары былі ў Кашалях. Таму кашалёўцы пачалі святкаваць (Раждзество і Вялікдзень) чатыры дні; калісь чацвёрты дзень быў у іх важнейшы чым першы.

**— Пажарнікі часта ладзілі танцавальныя забавы...**

— Танцавальныя забавы, калі яшчэ не было дэпо, арганізавалі ў будынку старога дома культуры. Забавы часта ладзіла ЗМВ (Саюз сялянскай моладзі), якому старшынявала Валя Жэпнеўская, аднак не маглі яны рабіць забавы з буфетам. А калі пажарнікі ладзілі забавы, то заўсёды з буфетам; і півам, а гарэлку хавалі ў сцяноўцы і тайком прадавалі знаёмым. Найчасцей гралі Валодзька Мураўскі з Орлі і Віцька Валкавыцкі з Рудут, пасля і іншыя музыканты. Калі ў драўляным будынку, дзе быў дом культуры, за сцяной адкрывалі клуба-кавярню, то я з Валодзькам Шыманскім ездзілі зімою ў калгас у Крывой па столікі — яны нам іх аддалі.

У тым будынку ў палове 1960-х гадоў дзейнічала таксама цяжкаатлетычная секцыя; трэніраваў Воўка Война. У ёй і я займаўся. Найздаравейшы то быў Толік Здановіч з Орлі, моцны хлапец.

**— Калі жаніліся?**

— Год пасля войска, у 1969 годзе. Жонка Тоня, 1949 года нараджэння, з Кашалёў.

**— А гавораць, што ў мінулым арлянская моладзь не вельмі ладзіла з кашалёўскай...**

— Я Кашалі то мала бачыў. Да нарачонай хадзіў напрасткі цераз раку, а яна з канца вёскі. Пазнаёміліся на навагодняй забаве ў Орлі. У школе са мною вучыліся Аня Пшчала, Тоня Шэранос, Вера Пыж, Валодзя Бобэр і Ваня Качан з Кашалёў, Оля Мінцэвіч, Маня Альшэўская, Рэната і Ромэк Байко, Міхал Чабан, Алёша Харуй, Міша Кубаеўскі, Янак Пятроўскі, Генік Стэльмашук з Орлі, Алёша Рыбачук, Саша Орда з Міклашоў...

**— Дзякую за размову.**

Міхал МІНЦЭВІЧ
Фота Міхала МІНЦЭВІЧА



Тыя, хто жыў у эпоху так званага развітога сацыялізму, можа ўспомніць агульныя адносіны да нейкіх нацыянальных строяў. Яны падаваліся чымсьці настолькі вясковым, старадаўнім, якое варта толькі захоўваць, магчыма, выключна дзеля нейкіх фальклорных мерапрыемстваў. Тады здавалася, што нацыянальнай вышыўцы не месца на сучасным адзенні. Але прайшло менш за паўстагоддзя і густы ў беларускіх людзей кардынальна змяніліся. Зразумела, што такія змены адбыліся пад уплывам розных, перш за ўсё палітычных, падзей, якія мелі месца на Украіне. Але тым не менш, нацыянальныя матывы ў адзенні сталі праявай нейкай амаль шляхетнасці і падкрэсленай прыналежнасці да свайго народа. Гэтую змену адчулі людзі, якія здолелі зрабіць на нацыянальным каларыце на кашулі ці спадніцы неблагі бізнес. Адным з прыкладаў таму з'яўляецца брэнд Honar.

Сайт фірмы, якая шые адзенне пад такім брэндам, месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://honar.by**. Галоўная старонка вэб-прадстаўніцтва маленькай кравецкай кампаніі выглядае даволі прывабна і адначасова годна. „Гонар павінен быць”, — сцвярджаецца на фотаздымку хлопца і дзяўчыны ў адзенні фірмы. „Сучасны беларускі мінімалізм”, — так апісваюць свой стыль дызайнеры Карына Адзесенка і Павел Доўнар. „Простыя формы, вытрыманыя колеры, акрэсленыя лініі ды сілуэты, нацыянальныя акцэнты, аўтарская вышыўка і ручны пашыў — гэтыя асаблівасці брэнда з'яўляюцца падмуркам у стварэнні непаўторных і актуальных рэчаў”, — распавядаецца крыху ніжэй.

Дызайнеры Карына і Павел з'яўляюцца распрацоўшчыкаміі ўладальнікамідызайнерага брэнда. Праўда, такімі яны былі не заўсёды. „У свет кройкі ды шыцця Павел Доўнар і Карына Адзесенка трапілі нечакана для сябе. Абое скончылі журфак, Карына працавала карэспандэнтам «Народнай волі», Павел мае відэапрадакшн-студыю „Zvonka”, а таксама з'яўляецца адным са стваральнікаў і рэжысёрам літаратурнага праекта „Litara A”. Пра сучаснае адзенне з нацыянальнай адметнасцю пара марыла даўно. Паколькі ніхто з модных дызайнераў гэтай простай ідэі так і не падхапіў, вырашылі: чаму б не зрабіць самім”, — адзначаецца ў тэксце на сайце грамадска-культурніцкай кампаніі „Будзьма беларусамі”.

Сайт брэнда адначасова з'яўляецца і інтэрнэт-магазінам. Вырабы, якія прадаюць там яго ўладальнікі, падзелены на жаночае, мужчынскае адзенне, аксесуары ды сувеніры. У кожным тавары абавязкова ёсць тое, што пазначае яго як маючы нацыянальны падтэкст.

Праўда, дызайнеры кажуць, што іх адзенне не датычнае вышыванак. „Я б увогуле не параўноўваў наша адзенне з традыцыйнымі вышыванкамі, гэта зусім розныя рэчы. Наша адзенне хутчэй для тых людзей, якія і так носяць белыя кашулі, але замест гальштука ўрачыстасці іх вобразу надае арнамент”, — адзначае Павел. Дарэчы, і кошты на адзенне Honar даволі вялікія.

У 2014 годзе, калі Павел і Карына толькі нядаўна распачалі свой бізнес, яны планавалі, што будуць шыць і дзіцячае адзенне. Па меншай меры так яны казалі ў інтэрв'ю „Будзьма беларусамі”. Аднак нават праз пяць гадоў нейкіх дзіцячых портачак ці кашулек на сайце няма. У той жа час дызайнеры запрашаюць да супрацы іншых калег, выстаўляючы да іх шэраг абавязковых патрабаванняў аўтарскі ўнікальны дызайн і беларускі кантэкст.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# 155 гадоў з дня нараджэння Біруты

Беларуская і польская этнографка, фалькларыстка Амелія Даравінская, якая пісала пад псеўданімам Бірута, нарадзілася ў вёсцы Ройсталі (цяпер у межах Вільні) у 1863 годзе. Дакладная дата яе нараджэння невядомая. Прычыны выбару свайго псеўданіма даследчыца не растлумачыла.

Даравінская навучалася ў Варшаве, пазней працавала настаўніцай у Лідскім павеце. Праводзіла этнаграфічныя назіранні на Лідчыне, запісвала беларускі фальклор. У адрозненне ад некаторых сваіх калег Бірута не была пасіўнай назіральніцай жыцця і побыту навакольнага насельніцтва, а імкнулася спазнаць яго духовы свет, вывучыць народныя норавы, звычкі, паставы. Ёй былі вядомыя важнейшыя працы свайго часу па польскай фалькларыстыцы і этналогіі. У канцы 1880-х гадоў Самуіл Адальберг збіраў матэрыял да выдання „Кнігі польскіх прыказак”. На старонках прэсы, у прыватнасці геаграфічна-этнаграфічнага штомесячніка „Wisła”, змяшчаліся звароты да чытачоў з просьбай дасылаць яму вусна-паэтычныя выразы з розных старонак краю. Пра гэта ведала і Бірута, якая даслала яму спачатку 350, а пасля 200 прыказак з вёскі Пілатаўшчына Беластоцкага павета. На жаль, дасланы ёю матэрыял па нейкіх прычынах не быў апублікаваны.

Першай публікацыяй, пад якой даследчыца падпісалася як Бірута, быў этнаграфічны нарыс „Дажынкі на Літве”. Ён быў надрукаваны ў 1889 годзе ў штомесячніку „Wisła”. У нарысе даецца апісанне жніўнага абраду з песнямі ў вёсцы Шаўры Лідскага павета. У Шаўрах Бірута гасцявала ў маёнтку сына знакамітага гісторыка Тодара Нарбута. Бірута сама прысутнічала на гэтым свяце. Даравінская здолела не толькі ўлавіць характэрныя асаблівасці правядзення абраду ў маёнтку, але і ўказаць на агульныя яго рысы з такім жа абрадам у іншых месцах Гарадзеншчыны.

Праўда, у пачатковым варыянце дасланы рукапіс не прынялі ў друк і толькі пасля адпаведнай дапрацоўкі яго апублікавалі. Таксама ў штомесячніку „Wisła” былі надрукаваны паданні „Сосны ў Лідзе”, „Пра касцёл святой Ганны ў Вільні”, „Паданне пра Плакальную гару” (у Ваўкавыскім павеце). На жаль, гэтыя творы былі апошнімі, якія Бірута пабачыла надрукаванымі.

Бірута напісала манаграфію „Народ Лідскага павета” (або „Апісанне Лідскага павета”), але цэнзура не дазволіла яе друк, праца не зберагласся. Бірута перапісвалася з Янам Карловічам. У адным з лістоў, выказваючы сваё захапленне народнымі песнямі, збіральніца паведамляе настаўніку, што крыху сабрала іх у розных ваколіцах, „між іншым і прыгожыя беларускія. Ці можна іх прыслаць і ці не знойдуць яны месца ў часопісе пана?” Яшчэ пры жыцці збіральніцы Карловіч прыслаў гэтыя рукапісныя матэрыялы ў Кракаў у рэдакцыю перыядычнага выдання на імя Ісідара Капярніцкага. Але найбольш значная публікацыя Біруты — „Беларускія песні з Лідскага павета” выйшла ўжо пасмяротна. Гэта 24 тэксты пазаабрадавай лірыкі (сямейна-бытавыя, рэкруцкія, любоўныя песні), у часопісе „Zbiór Wiadomości do Antropologii Krajowej” (1892, t. 16), і нарыс „Над прускай граніцай” — апісанне жыццёвага ўкладу літоўцаў паўднёва-заходняй часткі Ковенскай губерні — у часопісе „Wisła” (1899, t. 13).

Памерла Амелія Даравінская 27 ліпеня 1891 года. Штомесячнік „Wisła” змясціў невялікі некралог, у якім падаў асноўныя этапы яе жыцця. Асобныя рукапісы, дакументы, звязаныя з дзейнасцю Біруты, зберагаюцца ў архівах Вільні і Варшавы.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

**На фота:** Лідскі замак у часы Біруты

# Дэбют

## Сустрэча мужыка з поездам

Вельмі даўно таму, тады, калі яшчэ толькі пачала ў нас працаваць чыгунка, адзін мужык, які ніколі не бачыў цягніка ані пуцей, выбраўся ў горад па пакупкі.

Мужык ехаў возам, запрэжаным у невялічкага коніка. Жонка дала яму на дарогу вузялок з хлебам і салам, каб ён не быў галодны, бо вядома, дарога далёкая і доўгая. Мужык доўга ехаў праз ляскі і палеткі, аж даехаў да пуцей, па якіх ездзіў цягнік. І ехаў якраз у той час, калі пад'ехаў белавежац.

Дарожны назіральнік, што пільнаваў пераезду, закрычаў да мужыка, каб ён спыніўся і далей не ехаў, пачакаўшы, калі пераедзе цягнік. Мужык прыпыніў свайго коніка. Даў яму сена, каб ён крышку пераеў, а сам, таксама згаладнеўшы, дастаў хлеб і сала і стаў есці.

І вось што ён там быў убачыў, расказаў свайму куму, калі вярнуўся дахаты.

— Сяджу я, ем хлеб з салам, а тут штосьці пачало сычаць, стукатаць, агнём і дымам стала зяхаць! Як я пералякаўся! Такога чудовішча я яшчэ не бачыў!

А кум яму кажа:

— Я ўжо бачыў калісь, як ехаў поезд. Куме, гэта машына.

— Што ты кажаш, куме! Гэта не машына, гэта сапраўдная чарцяга з пекла родам! Я ж добра ёй прыглядзеўся!

Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ

## Каштоўнасць чалавечнасці

За кожны чын, за кожную мысль, за кожнае слова адказны кожны чалавек перад Госпадам Богам і людзьмі.
Нічога не ўкрыецца, як пад Сонцам, так і на Зямлі.
Важна цаніць жыццё — найважнейшая справа.
Ці ты будзеш у вялікім горадзе, ці ў малой мясцовасці —
важна быць разумным, добрым, справядлівым і верным Госпаду Богу.
Няважна, ці ты высокі вучоны, ці менш навучаны — будзь чалавекам праведным!
Кожны ведае і знае ды чуе дабрыню і зло.
Але гэта чорт не дапускае, каб быць свядомым.
Ты будзь чыстым, як святло.

## Час

Быў час, ёсць час, і будзе час, калі нават не будзе нас.
Калі чалавек нарodзіцца ў нейкай хвіліне часу — жыве, развіваецца, набірае сілы і розуму ды таленту да моманту, які дадзены яму. Часу жыцця на Зямлі.
Ёсць час спакою, але і трывогі ды бяды.
Хто ж гэта ты, вораг, што спрычыняешся да нашай бяды?
Вон адгэтуль, згінь, прападзі!
... А час ідзе, ідзе, вечна жыве.

Зінаіда КАНДРАЦЮК

БАСОВІШЧА
19-20.07.2019
ГАРАДОК, КАЛЯ БЕЛАСТОКА

Быць нам Разам! Звяртаемся да Вас з просьбай падтрымаць фінансава фестываль, які ад самага яго пачатку арганізуюць маладыя людзі з Беларускага аб'яднання студэнтаў. У гэтым годзе будзе ўжо 30 юбілейны Фестываль музыкі маладой Беларусі БАСовішча 2019, які пройдзе 19-20 ліпеня ў Гарадку каля Беластока. Кошты з году ў год растуць, а хочацца каб юбілейнае БАСовішча было незабыўным і яксным.

І Вы можаце дадаць сваю цаглінку да арганізацыі фестывалю прымаючы ўдзел у адмысловым зборы **odpalprojekt.pl/p/XXX-BASowiszcza-2019**

Дзякуем за кожную дапамогу! Партнёрамі БАСовішча з'яўляюцца: Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Рэспублікі Польшча, Падляшская маршалкоўская управа, Беларускае Радыё Рацыя, а таксама — маем такое спадзяванне — і Вы.

## Адборышча

Хто выступіць на конкурсе «Басовішча»? Журы адмысловага «Адборышча», зладжанага ў Менску 24.05.2019 зрабіла выключэнне для юбілейнага фестывалю ды павялічыла колькасць фіналістаў з 4 да 5. Гэта гурт Atesta з 14-гадовай вакалісткай, кабарэ-бэнд BarRokka, Harmonix College паходжаннем з Рагачова, поп-рокавая Paulinn і новы праект паэта Уладзя Лянкевіча luty sakavik. Уладзь дзеліцца ўражаннямі. — Гэта быў наш першы выступ і мы зайгралі трэкі, якія ўвайшлі ў „эпішку" — чатыры. І адна песня прагучала зусім новая. Гурт BarRokka: Мы шчаслівыя. PP: Вынікі гэтага конкурсу паказалі, што пераважна будуць спяваць дзяўчыны. — З жаночым вакалам проста музыка шукае новыя стылі і жанры. Таму яна і выглядае больш цікавая. Між тым, з'явілася неафіцыйная інфармацыя, што сёлетняе «Басовішча» ўсё ж такі не стане апошнім. Для яго працягу будзе створаны аднайменны з фестывалем фонд. Сябра Управы Беларускага аб'яднання студэнтаў Лідзія Пякарская камэнтуе: — На гэты момант нашае рашэнне, што гэта апошняе „Басовішча". Таксама не зачыняемся на магчымасці, што можа калісьці ў будучыні знойдуцца новыя людзі, з новымі думкамі, якія паднімуць яшчэ раз гэтую ініцыятыву. Пакуль што няма іншай арганізацыі, якая гэта рабіла б.

30-ае па ліку «Басовішча» пройдзе ля Гарадку пад Беластокам 19-20 ліпеня і паводле традыцыі пачнецца з конкурсу маладых гуртоў. Гэтым разам пяці.

Стась ДАДЗЭРКА,
Беларускае Радыё Рацыя

## 02.06 — 08.06

**(22.03. — 20.04.)** Лаві кожную нагоду. Можаш зрабіць суперінтарэс або пакінуць «вольны стан». Адатнешся ад негатыўных уплываў. Многа часу прысвяці радні, хоць гэта не пазбавіць цябе ад сямейных спрэчак. Не ляці па пакупкі, разваж капіталаўкладанне — Венера ў Быку падкажа табе, як памножыць маёмасць. Будзеш схільны да радыкальнага лячэння; паспрабуй акупунктуру, клізму і крыятэрапію.

**(21.04. — 21.05.)** Плаванне па спакойных водах. Цікавыя задумы і энергія для іх рэалізацыі. Будзеш практычны, твае высновы будуць трапныя. 2-5.06. маеш шанц у пары пачаць новы этап. Знайдзі час на хобі. У фірме ты ўзорам парадку і сарганізаванасці, можаш наракаць нават на часовы недахоп амбітных заданняў. 6-8.06. больш прафесійных кантактаў, абучэнняў, сустрэч, кірмашоў. Але пра фірмовыя справы размаўляй толькі ў фірме! Фінансава выйдзеш на простую.

**(22.05. — 22.06.)** Увесь месяц твой! Будзеш рабіць толькі прыемнае. 2-4.06. дасі рады з сабою, зразумееш чаго хочаш, будзеш ведаць, як гэта здабыць. 6-8.06. выкамбінуеш, як зрабіць інтарэс жыцця; спатрэбяцца твае шматлікія кантакты. 7-8.06. памыліць можаш мары, глядзі крытычна на прапановы «залатых гор». Будзеш фізічна як праколаты шарык, не пі кавы, алкаголю, трэніруйся памаленьку.

**(23.06. — 23.07.)** Не будзе такой рэчы і праблемы, з якімі не справішся. Дасі рады з абавязкам і зматывіруеш іншых. Асвабодзішся з таксічных сувязей. Смеласць да іншага полу. Узор працавітасці ў фірме — гэта ты. Схочаш даказаць, што ты — незаменны. Пры знаёмстве не выхільвайся адразу з матрыманіяльнай прапановай. Магчымыя новыя крыніцы даходаў. Злосць разгружай спортам або доўгім шпацырам. 6-8.06. атрымаеш прапанову цікавага вакацыйнага выезду.

**(24.07. — 23.08.)** Адкрыты на людзей, упарадкуеш сямейныя справы. 6-8.06. дастасуешся да кожнай сітуацыі і кожнай кампаніі. Вернешся да добрага здароўя і раўнавагі. Высветліш непаразуменні. Калі з кімсьці сустракаешся нядаўна, 2-4.06. станеце яшчэ бліжэйшымі; далейшае — у бліжэйшым часе. На працы з'ядай саюзнікаў. З 7 (да 11.06.) не зрабі памылкі і не дайся падысці канкурэнцыі. Непатрэбна турбуешся здароўем сваім і сваіх блізкіх.

**(24.08. — 23.09.)** Шмат спраў складзецца інакш, чым ты спадзяваўся. Трэба будзе змяніць некаторыя планы. Часам здасца, што ты ў сітуацыі без выхаду. Але зоркі за табою, з іх дапамогай выкарыстаеш шанцы і праблемы абернеш на сваю карысць. Самотныя Дзевы з III дэкады — вырушайце на паляванне 2-5.06.! Многа энергіі, аднаўляй яе адпачынкам і глыбокім сном. 6-8.06. пашчаслівіцца табе ў падарожжы, асабліва калі трэба будзе камбінаваць.

**(24.09. — 23.10.)** Напружанні з сям'ёй, знаёмымі, суседзямі. Не траць спакою, не спрачайся. Тым больш што ёсць яшчэ скрытыя ворагі. 2-4.06. вядзі важныя размовы, падпісвай дамовы. Але 2-3.06. не выдай зашмат грошай на свае прыемнасці. 2-5.06. тваё павышэнне стане рэальным. Дбай аб нервы, будзь актыўным на паветры.

**(24.10. — 22.11.)** Не ўцякай перад праблемамі, вырашыш іх. 1-5.06. распадуцца старыя лады, узнікнуць новыя саюзы. Узнагародзяць цябе за працу, але будзе больш работы. Маеш шанц выбіцца на рынку нават пры першых кроках у бізнесе. У здароўі слухай парад спецыялістаў.

**(23.11. — 22.12.)** Можаш пабіць праціўнікаў або здабыць чыёсьці сэрца. Зробленыя грошы выдасі на «захцявайкі». 1-03.06. надакучаць у жыцці дробныя праблемы. Канфлікт на працы можа табе зашкодзіць ад 8.06., але нічога кепскага табе не пагражае. 2-4.06. у пары былое аддзяліце тоўстай рысай. На працы не адкладвай важных заданняў.

**(23.12. — 20.01.)** Людзі, з якімі пазнаёмішся 1-5.06., стануць цудоўнымі сябрамі. Добры момант на абдумванне спраў, аналізы, складванне планаў. Здзейсняцца твае планы аб зменах. Старайся не рэагаваць лішне эмацыйна. Шмат адрэналіну сярод сяброў, будзеш абаронцам. Венера ласкавая для твайго кашалька, рабі важныя інвестыцыі 1-5.06., пасля трэба будзе заціснуць папругу.

**(21.01. — 19.02.)** Пераканаеш людзей, каб спалучылі свае дзеянні і падтрымалі твае задумы; поспех гарантаваны. 6-8.06. можаш шмат навучыцца і здабыць важныя інфармацыі. Самотныя не будуць мець праблем са знаёмствамі, а ў пары іх дацэняць. 2-4.06. ідэальныя час для знаёмстваў, стануць пачаткам файнага сяброўства. 6-8.06. удасца табе спалучыць фантазію з паспяховым дзеяннем, зможаш ажыццявіць смелы план, атрымаць дарагі прэзент; адчуеш дотык багацця.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш мець дастаткова задум, заззяеш на працы і сярод знаёмых. 1-5.06. можаш лёгка закахацца; не страць здаровага розуму. Ад 7.06. (да 11.06.) не ўключыся ў справы, якія скончацца правалам. Будзеш амбітны, крытычны і патрабавальны. Здабудзеш новых сяброў. Адносіны з 6-8.06. стануць сяброўствам на смерць і жыццё; сардэчна дома. На працы адраблянне «хвастоў»; не папраўляй добрага. Вялікі крок на дарозе ўласнага развою.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

**1.** ствол агнястрэльнай зброі, **2.** кукіш, фіга, **3.** дзесяць сотак, **4.** унутранае імкненне, прадмет захаплення, **5.** прадстаўленне мастацкімі сродкамі вонкавага выгляду з'яў рэчаіснасці, у якім... ява, **6.** оперная песня, **7.** Балеслаў, першы прэзідэнт ПНР, **8.** буйны населены пункт, у якім... гора.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Чучала, арда, штанга, Гвінея, Нарвегія, яешня, Берлін, Берн.

Рашэнне: **Учарашняга дня не вернеш.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Музычныя сюрпрызы і шырокі свет!

**Пра царкоўную музыку звычайна думаем як пра культурны рэлікт XIX стагоддзя. Гэта дзякуючы класікам — Рахманінаву, Чайкоўскаму, Архангельскаму, якія папоўнілі жанр новым музычным зместам і духам сваёй музычна-фенаменальнай эпохі. «Фестываль пяючай душы», які ўжо 38 гадоў ладзіць Мікола Бушко з Фондам царкоўнай музыкі, не толькі ўсвядоміў, але і паказаў яе жывы, сучасны працяг і яго легендарных творцаў. Сучасная царкоўная музыка няпростая для выканання. Яна патрабуе прафесійнага падыходу і высокай музычнай культуры ад выканаўцаў і слухачоў. Праўда, тут бываюць выключэнні. Вось творы сучаснай беларускай кампазітаркі Ірыны Дзянісавай, якая актуальна прабывае ў манастыры ў Навінках, з вялікай любоўю і захапленнем спяваюць прыхадскія хары ў Беластоку.**

Аднак творы Рамуальда Твардоўскага ці Лесі Дзічко ў змозе заспяваць толькі архірэйскія ці акадэмічныя хары.

З гэтым няпростым выклікам выдатна справіўся Прыднястроўскі дзяржаўны хор з Тыраспаля пад кірункам Тацяны Твердахлеб. Лаўрэат мінулагодняга Міжнароднага Фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2018» у Беластоку выканаў канцэрт пад загалоўкам «Шэдэўры царкоўнай музыкі», дзе значную частку склалі творы сучасных кампазітараў.

Каб не згубіць асноўнай інфармацыі, трэба адзначыць дапрацаванасць кожнага выступлення ў дэталях і дасканалую рэжысуру канцэрту. Пачалі з «Отчэ наш» Станіслава Манюшкі. Мікола Бушко, як дырэктар і заадно канферансье, дадаў, што польскі кампазітар, з'яўляецца таксама аўтарам першай беларускай оперы. Калі мова пра сучасных творцаў, тут праявілася незвычайнае багацце. Пачалі з твора «Любоў святая» Спірыдава, вядомага ў СССР як аўтара папулярных гітоў. Рэлігійная кампазіцыя літаральна электрызавала публіку, а гэта дзякуючы салістцы Людміле Градавай і яе боскага сапрана. Падобнае захапленне наклікаў парарэлігійны твор «Дні мае» згаданай ужо Ірыны Дзянісавай.

Канцэрт не мог абысціся без твораў Лесі Дзічко ці Рамуальда Твардоўскага. Кампазітарка, якая сёлета адзначае 80-годдзе, вялікі сябра гайнаўскага фестывалю. Некалькі гадоў таму на сцэне беластоцкай філармоніі поўнасцю прагучала яе святочная літургія (якую я слухала пасля круглы год). А зараз прагучаў трапарыён «Святы Божа — песня анёлаў». Леся Дзічко, як першы музыкант, адважылася пісаць рэлігійную музыку ў Савецкай Украіне. Затым Рамуальд Твардоўскі, жывая легенда фестывалю, старшыня Фонду і заадно старшыня журы, разам з публікай выслухаў свой твор «Во царствие твоим». Прыднястроўскія спевакі дабылі з твора непаўторную мелодыку слова і яго малітоўнасць. Падарожжа па сучаснай царкоўнай музыцы завяршыў твор мітрапаліта Іларыёна «Багародзіца Дзева».

А пасля публіка не хацела адпусціць харыстаў са сцэны...

Як не цікава, на біс праспявалі яны «Дні мае» беларускай кампазітаркі. Парарэлігійны твор Ірыны Дзянісавай заставіў думаць пра дар кожнай пражытай хвіліны.



Дзяржаўны хор з Прыднястроўя



Харысты з Ганы



Віктар Швед, Ірына Парфенюк і Валянціна Швед

* * *

Я ўдзячна Аляксандру Вярбіцкаму, які прапанаваў мне білет на канцэрт прыднястроўскіх харыстаў. У Прыднястроўі я пабывала ў пачатку бягучага стагоддзя, калі яшчэ не астыў ваенны канфлікт з Малдовай і на палях, у кукурузе стаялі танкі. У выніку вайны загінула больш за тысячу людзей. Мой муж, які да касцей захапіўся спевам і выступленнем гасцей з гістарычнай Бесарабіі, не мог надзівавацца:

— Jak to jest, — паўтараў ён, — nie ma państwa, a jest państwowy chór?

Прыднястроўе — маладая, непрызнаная ў свеце краіна. Яна ўзнікла на тэрыторыі былой Малдаўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Насельніцтва краіны складаюць расіяне, малдаване, украінцы ды прадстаўнікі іншых нацый. Грамадзяне, як не дзіўна, карыстаюцца пашпартамі трох краін: Малдовы, Расіі, Украіны. У час канцэрта яны агучылі творы кампазітараў трох названых народаў ды свабодна карысталіся іх нацыянальнымі мовамі. Вось, феномен непрызнанай у свеце краіны ў нацыянальных брэндах. У свеце ведаюць прыднястроўскі футбольны клуб «Шэрыф» і высакаякасны каньяк. Шанц на чарговы брэнд у галіне класічнай музыкі. Музычная культура маладой дзяржавы, дарэчы, не павінна на добрую справу здзіўляць. Спрычыніўся да гэтага першы прэзідэнт Ігар Смірноў. Ён не толькі арганізаваў канцэрты, але і сам сядаў за фартэпіяна і выконваў творы класікаў. На канцэртах, як правіла, збіралася ўся эліта маладой краіны.



Прафесар Ромуальд Твардоўскі і Мікола Бушко

Прыднястроўскія харысты ў большасці дзеці эліты. У іх старанная музычная адукацыя і адкрытасць на свет.

* * *

— Здавалася б, такое немагчыма, бо ўзровень фестывалю вельмі высокі і ён з году ў год яшчэ расце, — гаварыў прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі. І дадаў на асалоду арганізатарам: — Гэтае мерапрыемства мае шанс стацца адным з ключавых у рэгіёне, а гэта абазначае яго большае фінансаванне.

Прэзідэнт Беластока пакуль афіцыйна адкрые XXXVIII Міжнародны Фестываль царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2019» у Беластоку, прыкмеціць у зале гасцей з шырокага свету, у тым ліку з сонечнай Афрыкі, ды прывітае іх на англійскай мове і раскажа пра наш рэгіён. Менавіта, ужо сама прысутнасць хору «Harmonious" з Рэспублікі Гана наклікала прысмак экзотыкі. Госці з Афрыкі поўнасцю апраўдалі свой прыезд не толькі ў геаграфічным сэнсе. Яны паспяхова канцэртавалі ў беластоцкай студыі «Рэмбрандт» і дадаткова ў Варшаве. Калі глядзець на абсяг фестывалю, дык ён неверагодна экспансіўны. У гэты раз арганізатары запрасілі 25 выканаўцаў з 11 краін свету, ды апрача конкурсных выступленняў далі яшчэ 26 канцэртаў у 20 мясцовасцях. Пры гэтым уражвае дух экуменії, які спадарожнічае фестывалю. Звычайна, дадатковыя канцэрты ладзяць у падляшскіх мястэчках і вёсках пры каталіцкіх парафіях. Таксама сярод гасцей прысутнічаў мітрапаліт-сеніёр Эдвард Азароўскі, якога публіка прывітала гарачымі апладысментамі.

Як жыхарка Беластока разам з тонкімі знаўцамі і звычайнымі жыхарамі горада кожны раз маю нагоду падцягнуцца ў справе адукацыі ў галіне царкоўнай музыкі і натхніцца яе добрым духам. Не менш прыемна сустракаць групу гайнаўян, якія ад пачатку нясуць падтрымку ідэі і прыязджаюць у Беласток. На фестывалі заўсёды можна спаткаць жывыя легенды, ды не толькі з музычнага свету. Сваю радасць, як кожны год, адзначыў беларускі паэт Віктар Швед з жонкай Валянцінай.

*15 мая 2019, Філармонія і опера ў Беластоку па вуліцы Падлесьнай*

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 22